

№ 9 (122)

Сакавік 2006 года

# Краязнаўчая газета

Выдаецца з красавіка 2003 года

## У нумары:



*17 лютага 2006 года ў культурным жыцці старажытнага Лагойска адбылася адметная падзея: тут упершыню прайшло ўрачыстае ўшанаванне знатнага земляка Канстанціна Тышкевіча. А нагодай для гэтага стала 200-годдзе з дня нараджэння вядомага вучонага, археолага, этнографа, аднаго з заснавальнікаў першага на Беларусі музея старажытнасцей.*



## У памяці лагайчан – назаўжды

Зранку на месца пахавання К. Тышкевіча (побач з касцёлам Св. Казіміра) супрацоўнікі аддзела культуры і аддзела па ідэалагічнай рабоце Лагойскага райвыканкама ўсклалі жывыя кветкі. А пазней у выставачнай зале гісторыка-краязнаўчага музея імя К. і Я. Тышкевічаў адбылася вечарына, на якую былі запрошаны мясцовая інтэлігенцыя, служболы, старшакласнікі, святары мясцовых храмаў.

Зала музея нагадвала залу старасвецкага палаца, інтэр'ер якога ўпрыгожвалі старадаўнія падсвечнікі. Цэнтральнае месца займаў вялікі партрэт Канстанціна Тышкевіча ў стылізаванай пад даўніну рамцы (яе зрабіў мастак-лагайчанін Ігар Лыскавец). На сценах залы, як і ў палацы Тышкевічаў, карціны з краявідамі Лагойшчыны. Былі выстаўлены і экспанаты этнаграфіі, археалогіі, нумізматыкі. Супрацоўнікі музея наладзілі часовую выставу, якая знаёміла прысутных з жыццём і дзейнасцю слынных землякоў – братоў Кастанціна і Яўстафія Тышкевічаў.

Вечарына пачалася пад музыку вядомага кампазітара XIX стагоддзя Восіпа Казлоўскага ў выкананні народнага калектыву педагогаў Лагойскай школы мастацтваў «Лагожа».

Аповед вядучай Людмілы Іосіфаўны Шут суправаджалі выступленні калектываў мастацкай самадзейнасці. Гледачы шчыра сустракалі юных удзельнікаў узорнага дзіцячага калектыву «Валошкі», заслухаліся старадаўнімі песнямі ў выкананні народнага калектыву «Шчодрыца» Лагойскага ГДК. Запрошаныя на вечарыну ўдзельнікі фальклорна-этнаграфічнага гурта «Субботка» з в. Гайна парадавалі выкананнем танцаў і песень сваёй мясцовасці. Духам даўніны павеяла падчас выступлення калектыву школы старадаўняга танца, які існуе пры мінскім Палацы дзяцей і моладзі. Касцюмы, старадаўняя музыка, запаленыя свечкі стварылі атмасферу сапраўднага балю, якія неаднаразова наладжваліся ў палацах ў XIX стагоддзі. Адметным момантам стала ўручэнне падарункаў музею ад гасцей.

Усім вядома, і гэта адзначалася ў расказе вядучай, што з-за розных гістарычных абставінаў амаль усе экспанаты, якія датычаць графаў Тышкевічаў, лічацца беззваротна для нас згубленымі. І якой неспадзяванкай для супрацоўнікаў музея стаў падарунак лагайчаніна Д.У. Жыткоўскага! Гэта – кніга на польскай мове Ю. Крашэўскага «Мазаіка. Навэлы і апавяданні» 1884 года з экслібрысам музея і бібліятэкі Тышкевічаў у Лагойску.

Не меней цікавы экспанат падарыла настаўніца-пенсіянерка В.Р. Саўрыцкая – цагліну са штампам-адбіткам, выраблёную ў цагельні каля в. Міхалова, якая належыла графам Тышкевічам.

Загадчыца музея «Літаратурная Лагойшчына» школы № 1 Л.С. Пількевіч прынесла ў падарунак футарал для карт і дакументаў, якім некалі карысталіся Тышкевічы.

Жаданымі гасцямі на юбілеі сталі прадстаўнікі Вілейскага раёна: краязнаўцы-аматары і навуковыя супрацоўнікі краязнаўчага музея. Яны палічылі сваім абавязкам у такі знамянальны дзень прыехаць пакланіцца магіле Канстанціна Тышкевіча і пакласці кветкі. А супрацоўнікі Лагойскага раённага музея атрымалі ад гасцей падарункі (друкаваныя выданні да юбілею К. Тышкевіча) і запрашэнне да ўдзелу ў экспедыцыі па Віліі, якую яны плануюць ажыццявіць у 2007 годзе. Менавіта адтуль, з в. Камена Вілейскага раёна, у 1857 годзе К. Тышкевіч пачаў сваё падарожжа па рацэ дзеля вывучэння гэтага рэгіёну. Вынікам працы стала яго кніга «Вілія і яе берагі».



*Доўга пасля заканчэння вечарыны не разыходзіліся госці. Сталі купкамі і абмяркоўвалі пачутае і пабачанае. Выказвалі свае думкі наконт прынцыпаў узнаўлення музея Тышкевічаў у Лагойску. Здарылася так, што дух вечарыны, яе ўзнёсласць і яскравасць, аб'ядналі ўсіх прысутных, дапамаглі музею знайсці шматлікіх сяброў.*

**Святлана ГРЫНЬ,**
*дырэктар Лагойскага гісторыка-краязнаўчага музея імя К. і Я. Тышкевічаў*

*Нашы віншаванні*

## Руплівец Марыя Баравік



Хочацца пазнаёміць чытачоў газеты з кіраўніком гуртка «Юны экскурсавод» Падсвільскага цэнтра дзіцяча-юнацкага турызму і экскурсій Марыяй Якаўлеўнай Баравік. Вось ужо сёмы год яна разам з дапытлівымі гурткоўцамі вывучае гісторыю нашага гарадскога пасёлка і яго ваколіц, знаёміць турысцкія і экскурсійныя групы, што прыязджаюць адпачываць на Падсвільскую дзіцячую турбазу, з цікавай гістарычнай, культурнай і прыроднай спадчынай нашага краю. Усе наведвальнікі з цікавасцю слухаюць Марыю Якаўлеўну, бо яна вельмі незвычайны чалавек. У экскурсіях яна выкарыстоўвае свае вершы пра прыроду, выказвае свой погляд на з'явы, на ўзнікненне назваў азёр, паселішч, пералескаў.

Намаганнямі Марыі Якаўлеўны распрацаваны даведнік экскурсавода «Падсвілле. Штрыхі мінулага і сучаснага». Дарэчы, Марыя Якаўлеўна Баравік – член Саюза беларускіх пісьменнікаў. Яна ўсё жыццё працавала з дзецьмі – бібліятэкарам у дзіцячай бібліятэцы. Кіравала ў розныя часы шэрагам гурткоў: юных карэспандэнтаў, фатографаў, лялечным, клубам «Сябры прыроды». Заўсёды раіла чытаць цікавыя кнігі, звяртала ўвагу і давала ацэнку розным учынкам людзей, пераносіла чалавечыя праблемы ў казачны свет і раскрывала іх у незвычайных вершаваных казках для дзяцей.

Больш як за 40 гадоў працоўнай і творчай дзейнасці Марыі Якаўлеўны шмат людзей духоўна абагацілася побач з ёй. Нягледзячы на цяжкасці і складанасці жыцця, Марыя Якаўлеўна заўсёды сустракае цёплай усмешкай, для ўсіх у яе знойдзецца спачуванне, суцяшальнае слова, ад усёй душы парадуецца добрым весткам.

Нядаўна Марыя Якаўлеўна адзначала юбілей. Хочацца пажадаць ёй здароўя, творчага натхнення, каб яна доўгія гады радавала прыхільнікаў паэзіі сваімі вершамі.

*Супрацоўнікі Падсвільскага РЦ ДзЮТіЭ*

**Найлепшы сродак прывіць дзецям любоў да Айчыны ёсць у тым, каб гэта любоў была ў бацькоў.**

*Ш. Мантэск'е*





*Кароткі слоўнік*
# краязнаўча-прававой тэрміналогіі
*беларускай старажытнасці*



**(Пачатак у № 3 за 2005 г.)**

**МЕТРЫКА ВКЛ**, Літоўская метрыка (польск. архіў) – прынятая назва архіва канцылярыі ВКЛ XIV–XVII стст. Каштоўны збор дакументаў па гісторыі Літвы, Беларусі, Украіны і рускіх зямель, што ўваходзілі ў склад ВКЛ.

Дакументы за XV і большую частку XVI стст. на беларускай мове, пазнейшыя, пасля забароны афіцыйнага і дзяржаўнага ўжытку (1696) беларускай мовы сеймам Рэчы Паспалітай, на польскай, часткова на лацінскай мовах. За XV–XVI стст. дакументы зберагліся ў копіях, за XVII–XVIII стст. у арыгінале. Метрычныя кнігі (каля 600) – дакументы вялікага князя, паноў-рады, сейма, замежных дзяржаў, дзяржаўных установаў і асоб. Падзяляюцца на пасольскія, данін, судовых справаў, запісаў, публічных справаў, арэндаў. Найважнейшыя з метрыкі – акты пра сацыяльна-эканамічнае развіццё Літвы і Беларусі XV–XVIII стст. (прывілеі земскія, павятовыя, гарадам, асобным кагортам насельнікаў, справаздачы мясцовых установаў, аб правах феадалаў на валоданне зямлёй, на будаўніцтва гарадоў і мястэчак, адкрыццё торгаў, кірмашоў, корчмаў, пра збор пошлін, статуты валасцям пра павіннасці, дараванні пасад, зямель, судовыя прысуды і інш.). У кнігах публічных справаў знаходзяцца княжацкія і каралеўскія наказы, статуты, сеймавыя пастановы. У пасольскіх – матэрыялы знешняй палітыкі ВКЛ (лісты да замежных дзяржаў і ад іх, дагаворы, прамовы паслоў, інструкцыі ім і інш.). Захоўваліся ў Троках, Вільні, Варшаве, цяпер – у Цэнтральным дзяржаўным архіве старажытных актаў у Маскве. Няма-ла дакументаў метрыкі надрукавана ў Актах Літоўска-Рускай дзяржавы, Актах Заходняй Расіі, Актах Паўднёвай і Заходняй Расіі і інш. выданнях. Яны былі спрыяльнай крыніцай для навуковых прац па гісторыі ВКЛ М. Любаўскага, М. Доўнар-Запольскага, В. Ластоўскага, У. Ігнатоўскага, У. Пічэты, М. Ермаловіча і інш.

**МЕЧНІК** – службовец у ВКЛ, які падаваў вялікаму князю меч, – знак вярхоўнай улады. Паходзіў з радных паноў і браў удзел у пасяджэнні рады.

**МІЛЯ** (англ. тысяча двайных рымскіх крокаў) – адзінка вымярэння адлегласці. У розных краінах была рознай. У ВКЛ раўнялася 7,798 км.

**МІТРАПАЛІТ** (грэч. вышэйшы духоўны тытул у праваслаўных епіскапаў, кіраўнік мітраполіі (царкоўнай адміністрацыйнай акругі). У ВКЛ з 1458 г. справамі праваслаўнай царквы кіраваў мітрапаліт кіеўскі, якога прызначаў канстанцінопальскі патрыярхат і фармальна падпарадкоўваўся яму. Мітраполія мела ў сваім складзе Навагрудскую, Полацка-Віцебскую, Турава-Пінскую, Смаленскую і інш. епархіі. Афіцыйна мітрапаліт меў рэзідэнцыю ў Кіеве, але падоўгу знаходзіўся і ў Навагрудку, Вільні, Смаленску і інш. месцах. Спачатку ён быў у ліку вышэйшых саноўнікаў ВКЛ. Асобныя мітрапаліты імкнуліся трапіць у склад паноў-рады, дзе былі каталіцкія біскупы. Але гэтыя спробы не мелі поспеху. Пастанова Гродзенскага сейма 1522 г. забараняла вярхам праваслаўнай царквы займаць адказныя дзяржаўныя пасады. Пасля Брэсцкай уніі 1596 г. уплыў мітрапалітаў на грамадска-палітычнае жыццё ВКЛ быў значна абмежаваны.

---

# Афіцыйнае двухмоўе на Беларусі:
## рэальнасць ці дысбаланс?

*(Працяг. Пачатак у № 8)*

Пра ўсё гэта мною вялася даволі падрабязная гаворка з чытачом у артыкулах «Беларуская мова: трывога і надзея» («Маладосць». 1988, № 4), «Двуязычие: проблемы и перспективы» («Советская Белоруссия», 25 мая 1988 г.), «Взвешенность вместо эмоций» (там жа, 15 лютага 1989 г.), «Обсуждению подлежит...» (там жа, 19 верасня 1989 г.). Каб як-небудзь выратаваць краіну ад зусім рэальнага канфлікту на моўнай глебе, ЦК КПСС вымушаны *быў на верасн*еўскім (1989) пленуме вуснамі свайго лідэра Міхаіла Гарбачова такімі заспакойлівымі словамі стрымаць іх справядлівыя абурэнні: «Перш за ўсё мы зыходзім з таго, што карэннае насельніцтва ўсіх рэспублік, безумоўна, мае поўнае права зацвердзіць сваю мову ў якасці дзяржаўнай (заўважце: пра такі статус для рускай мовы ў рэспубліках ні слова! – Л.Л.), інакш кажучы, стварыць прававыя ўмовы для яе захавання і развіцця. Гэта не толькі юрыдычнае пытанне. Гэта пытанне палітычнае, паколькі размова ідзе аб самаадчуванні нашых народаў, іх зразумелым імкненні захаваць сваю нацыянальную незалежнасць». Ах, як усяго гэтага не ставала ў бальшавіцкай нацыянальнай палітыцы на працягу ўсяго папярэдняга перыяду!

Павярнуцца тварам да карэнных нацыянальных інтарэсаў абавязвалі партыйна-дзяржаўны апарат, афіцыйных ідэолагаў і такія словы М. Гарбачова: «Пазбаўце чалавека магчымасцяў гаварыць і пісаць на роднай мове, ведаць гістарычны шлях, эпас свайго народа, і ён, якіх бы поспехаў не дасягнуў у матэрыяльных адносінах, ужо бязродны, а значыць, і бездухоўны». Так і хочацца сказаць, што выснова зроблена з няўдалага, стратнага вопыту беларусаў. Праўдзівасць яе цалкам пацвярджаецца і іх сённяшнім становішчам, якое далёка не адпавядае нацыянальнаму жыццю любой еўрапейскай краіны.

У характэрных для канца 80-х гадоў XX стагоддзя варунках улады Беларусі ўжо ніяк не маглі далей адсоўваць час надання мове свайго карэннага насельніцтва статусу адзінай дзяржаўнай. Гэтае пытанне знайшло сваё юрыдычнае рашэнне ў прынятым 26 студзеня 1990 года законе «Аб мовах у Беларускай ССР». Згодна з ім, у БССР магла выкарыстоўвацца ў грамадскім жыцці і руская мова. А што датычыцца мовы «узаемаадносін рэспубліканскіх і мясцовых дзяржаўных, партыйных органаў, прадпрыемстваў, устаноў і грамадскіх арганізацый з саюзнымі органамі», тут у адпаведнасці з 9 артыкулам закона павінна была ўжывацца толькі руская мова. Прыярытэт надаваўся ёй і пры абслугоўванні дачыненняў «з органамі, прадпрыемствамі, установамі і арганізацыямі іншых саюзных рэспублік».

Ў той час мала хто думаў, што можа распасціся СССР, таму для сувязі паміж яго суб'ектамі і сапраўды найбольш прыдатнай з'яўлялася руская мова, якую ведалі ва ўсіх саюзных і аўтаномных рэспубліках. Але з адыходам СССР у Лету такую функцыю магла б выконваць ужо і беларуская мова. Да прыкладу, Балгарыя, Польшча, Румынія і іншыя краіны не заўсёды выкарыстоўваюць якую-небудзь чужую мову для сваіх міжнародных зносін. У такіх выпадках афіцыйнае двухмоўе на Беларусі натуральна зрабіла б яшчэ большы крок у бок мовы яе дзяржаўнага народа, чым забяспечваліся б вельмі спрыяльныя ўмовы для яго прыстойнага самабытнага этнакультурнага жыцця. Нарэшце і яму б пашчасціла вызваліцца ад так моцна абрыдлых формаў культурна-моўнай асіміляцыі.

Такі прагрэсіўны ход нацыянальна-культурнага жыцця беларусаў не задавальняў тых, хто дзесяцігоддзямі займаўся іх русіфікацыяй. На вялікую бяду, сярод такіх асімілятараў сустракалася нямала і саміх беларусаў, прычым і ў верхніх эшалонах улады. У іх галовах вельмі хутка выспела думка аб правядзенні рэферэндуму з мэтай юрыдычнага ўраўнавання рускай мовы з беларускай. Рэферэндум адбыўся ў маі 1995 года. Руская мова такі статус атрымала, толькі вось бяда, ніхто не паклапаціўся, каб роўнасць паміж ёй і беларускай мовай усталёўвалася і на практыцы, дзе і падчас рэферэндуму, як і ў папярэдні перыяд, панавала руская мова. Пяці гадоў пасля прыняцця закона «Аб мовах у Беларускай ССР» не хапіла, каб прыкметна пацясніць яе ў афіцыйным жыцці беларускай мовай. Вельмі мала было ў апошняй сапраўдных прыхільнікаў у асяроддзі чыноўніцкага апарату. А менавіта ён, а не лінгвісты, вырашаў і вырашае лёс беларускай мовы.

Майскі рэферэндум 1995 года, спыніўшы заканамернае паступовае пашырэнне маштабаў ужывання беларускай мовы ў грамадскім жыцці, дазволіў апаратчыкам вельмі хутка нарошчваць у ім патэнцыял рускай мовы. Пра афіцыйнае двухмоўе ніхто з іх нават і не думаў. Датычыла гэта і самых высокіх органаў улады і кіравання, г. зн. тых структур, якія абяцалі народу ўсталяваць у краіне на аснове вынікаў рэферэндуму поўную не толькі юрыдычную, але і фактычную роўнасць беларускай і рускай моваў.




**Надаючы беларускім паселішчам назвы, не зусім характэрныя і не адпаведныя традыцыям, з'яўляюцца і бязглуздыя «гібрыды». Гэтую шыльду мы пабачылі падчас святкавання юбілею П. Броўкі на ягонай радзіме...**

***Фота Уладзіміра ПУЧЫНСКАГА***

Не ў прыклад усім астатнім былым саюзным рэспублікам Беларусь у моўным плане не толькі вярнулася да самых неспрыяльных савецкіх часоў, але нават працягвала ўпарта пагаршаць становішча роднага слова сваёй тытульнай нацыі. Прычым гэты архішкодны для яе працэс пачынаў свой ход з высокіх паверхаў дзяржаўнай улады, а затым імкліва апусціўся ўніз аж да самых мясцовых саветаў. Гэты негатыўны вопыт дзяржаўных структур тут жа пераймаў кіраўнічы апарат адміністрацыйна-гаспадарчых органаў. У такой сітуацыі не маглі не турыць беларускую мову з усіх тыпаў навучальных устаноў органы народнай адукацыі. Сёння ў іх мова беларусаў горш сябе пачувае, чым за савецкім часам. Дакаціліся ўжо да таго, што кіраўнікі гэтага міністэрства, а таксама міністэрстваў культуры і інфармацыі нават падчас падрыхтоўкі сваіх выступленняў і правядзення 4 верасня ў Камянцы Дня беларускага пісьменства больш карысталіся рускім, чым родным для нашай краіны словам. Ёсць усе падставы сцвярджаць, што беларуская мова, калі не закончыла, дык заканчвае выкананне сваіх цалкам законных, зафіксаваных канстытуцыяй функцый па абслугоўванні грамадскага жыцця. Надышоў час спраўляць па ёй хаўтуры.

Сказанае вышэй ніяк не дае пагадзіцца са словамі старшыні Пастаяннай камісіі Савета Рэспублікі Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь па міжнародных справах і нацыянальнай бяспецы Мікалая Чаргінца: «Наша краіна сёння мае дзве *раўнацэнныя* (падкрэслена мною. – **Л.Л.**) дзяржаўныя мовы: такую неабходнасць прадыктавалі гістарычныя рэаліі. У гэтым праявілася дальнабачная палітыка нашага кіраўніцтва» («ЛіМ», 02.09.2005). О, як нам далёка да ўсяго гэтага! Бо нават цьмянага беларускамоўнага агеньчыка не бачым у дзяржаўным сектары жыццядзейнасці людзей. Пра раўнацэннасць, раўнапраўнасць дзяржаўных беларускай і рускай моваў пішуць і гавораць многія палітычныя дзеячы і блізкая ім па духу інтэлігенцыя. І іх лёгка зразумець: не даць людзям усумніцца ў правільнасці моўнай палітыкі Рэспублікі Беларусь. Вось толькі ці магчымы поўны парытэт беларускай і рускай моваў у яе грамадскім жыцці? Думаю, што не.

***Леанід ЛЫЧ,***
***доктар гістарычных навук, прафесар***

**(Працяг будзе)**

Краязнаўчая

*«Сусветная дэкларацыя культурнай разнастайнасці» (ЮНЕСКО, 3 лістапада 2001 г.) і «Міжнародная канвенцыя па ахове нематэрыяльнай культурнай спадчыны» (ЮНЕСКО, 17 кастрычніка 2003 г.) склалі грунтоўны падмурак міжнароднай палітыкі ў справе захавання самабытнасці культур народаў Зямлі, іх аховы ад знішчэння, скажэння, фальсіфікацыі, уніфікацыі і пароды.*

*Усведамляючы важнасць гэтых дакументаў, ратыфікаваных кіраўніцтвам Рэспублікі Беларусь, а таксама грамадзянскую адказнасць перад будучымі пакаленнямі за захаванне непаўторнага культурнага аблічча унікальнай па старажытнасці і гуманітарнасці традыцыйнай культуры нашага народа, мы друкуем названыя дакументы з мэтай, каб гэта заклапочанасць міжнароднай супольнасці стала штодзённай турботай усіх і кожнага жыхара краіны па зберажэнні нашай нацыянальнай адметнасці. Пераклады зроблены ў навукова-даследчай лабараторыі беларускага фальклору БДУ.*

# МІЖНАРОДНАЯ КАНВЕНЦЫЯ АБ АХОВЕ НЕМАТЭРЫЯЛЬНАЙ КУЛЬТУРНАЙ СПАДЧЫНЫ

Генеральная канферэнцыя Арганізацыі Аб'яднаных Нацый па пытаннях адукацыі, навукі і культуры, ніжэй названая «ЮНЕСКО», якая сабралася ў Парыжы з 29 верасня па 17 кастрычніка на сваю трыццаць другую сесію,

➤ спасылаючыся на міжнародна-прававыя акты аб правах чалавека, у прыватнасці, на Усеагульную дэкларацыю правоў чалавека 1948 г., Міжнародны пакт аб эканамічных, сацыяльных і культурных правах 1996 г. і Міжнародны пакт аб грамадзянскіх і палітычных правах 1966 г.,

➤ прымаючы да ўвагі важнае значэнне нематэрыяльнай культурнай спадчыны ў якасці кузні культурнай разнастайнасці і гарантыі ўстойлівага развіцця, *што падкрэсліваецца ў Рэкамендацыі* ЮНЕСКО аб захаванні фальклору 1989 г., ва Усеагульнай дэкларацыі ЮНЕСКО аб культурнай разнастайнасці 2001 г. і ў Стамбульскай дэкларацыі 2002 г., прынятай на трэцяй сустрэчы за круглым сталом міністраў культуры,

➤ улічваючы цесную ўзаемазалежнасць паміж нематэрыяльнай культурнай спадчынай і матэрыяльнай культурнай і прыроднай спадчынай,

➤ прызнаючы, што працэсы глабалізацыі і сацыяльных пераўтварэнняў, ствараючы ўмовы для ўзнаўлення дыялогу паміж супольнасцямі, разам з тым з'яўляюцца, як і праявы нецярпімасці, крыніцамі сур'ёзнай пагрозы дэградацыі, знікнення і разбурэння, якая навісла над нематэрыяльнай культурнай спадчынай, у прыватнасці, у выніку недахопу сродкаў для аховы такой спадчыны,

➤ усведамляючы ўсеагульнае імкненне забяспечыць ахову нематэрыяльнай культурнай спадчыны чалавецтва і агульную заклапочанасць, якая адчуваецца ў сувязі з гэтым,

➤ прызнаючы, што супольнасці, у прыватнасці, карэнныя супольнасці, групы і, у некаторых выпадках, пэўныя асобы адыгрываюць важную ролю ў стварэнні, ахове, захаванні і ўзнаўленні нематэрыяльнай культурнай спадчыны, узбагачаючы тым самым культурную разнастайнасць і выступаючы чыннікам садзеяння творчасці чалавека,

➤ адзначаючы вялікае значэнне дзейнасці ЮНЕСКО па распрацоўцы нарматыўных актаў, накіраваных на абарону культурнай спадчыны, у прыватнасці, Канвенцыі аб ахове сусветнай культурнай і прыроднай спадчыны 1972 г.,

➤ адзначаючы далей, што сёння не існуе ніякага шматбаковага прававога акта, які б датычыў аховы нематэрыяльнай культурнай спадчыны і меў бы абавязковую юрыдычную сілу,

➤ мяркуючы, што існуючыя міжнародныя пагадненні, рэкамендацыі і рэзалюцыі аб культурнай і прыроднай спадчыне неабходна ўзбагаціць і эфектыўна дапоўніць новымі палажэннямі, датычнымі нематэрыяльнай культурнай спадчыны,

➤ улічваючы неабходнасць больш глыбокага ўсведамлення, асабліва сярод маладых пакаленняў, важнасці нематэрыяльнай культурнай спадчыны і яе аховы,

➤ мяркуючы, што ў духу супрацоўніцтва і ўзаемадапамогі міжнародная супольнасць разам з дзяржавамі-удзельніцамі гэтай Канвенцыі павінна садзейнічаць ахове такой спадчыны,

➤ нагадваючы аб праграмах ЮНЕСКО па нематэрыяльнай культурнай спадчыне, у прыватнасці, абвяшчэнні шэдэўраў вуснай і нематэрыяльнай спадчыны чалавецтва,

➤ беручы пад увагу неацэнную ролю нематэрыяльнай культурнай спадчыны ў якасці чынніка збліжэння, абменаў і ўзаемаразумення паміж людзьмі,

прымае сямнаццатага кастрычніка 2003 года дадзеную Канвенцыю.

## I. Агульныя палажэнні

*Артыкул 1. Мэты Канвенцыі.*

☐ Мэтамі дадзенай Канвенцыі з'яўляюцца:

а) ахова нематэрыяльнай культурнай спадчыны;

б) павага да нематэрыяльнай культурнай спадчыны адпаведных супольнасцяў, груп і прыватных асоб;

в) прыцягненне ўвагі на мясцовым, нацыянальным і міжнародным узроўнях да важнасці нематэрыяльнай культурнай спадчыны і яе ўзаемнага прызнання;

г) міжнароднае супрацоўніцтва і дапамога.

*Артыкул 2. Вызначэнні.*

☐ Для мэт дадзенай Канвенцыі

1. «Нематэрыяльная культурная спадчына» азначае звычаі, формы ўяўлення і выяўлення, веды і навыкі, а таксама звязаныя з імі інструменты, прадметы, артыфакты і культурныя прасторы, прызнаныя супольнасцямі, групамі і, у некаторых выпадках, асобнымі людзьмі ў якасці часткі іх культурнай спадчыны. Такая нематэрыяльная культурная спадчына, якая перадаецца ад пакалення да пакалення, пастаянна ўзнаўляецца супольнасцямі і групамі ў залежнасці ад навакольнага асяроддзя, іх узаемадзеяння з прыродай і іх гісторыі і фарміруе ў іх пачуццё самабытнасці і пераемнасці і гэтым садзейнічае павазе да культурнай разнастайнасці і творчасці чалавека. Для мэт дадзенай Канвенцыі бярэцца пад увагу толькі тая нематэрыяльная культурная спадчына, якая стасуецца з існуючымі міжнародна-прававымі актамі па правах чалавека і патрабаваннямі ўзаемнай павагі паміж супольнасцямі, групамі і асобнымі людзьмі, а таксама ўстойлівага развіцця.

2. «Нематэрыяльная культурная спадчына», як яна вызначаная вышэй, выяўляецца, у прыватнасці, у наступных галінах:

а) вусныя традыцыі і формы, выяўленне ўключна з моваю ў якасці носьбіта нематэрыяльнай культурнай спадчыны;

б) выканаўчае мастацтва;

в) звычаі, абрады, святы;

г) веды і звычаі, датычныя прыроды і Сусвету;

д) веды і навыкі, звязаныя з традыцыйнымі рамёствамі.

3. «Ахова» азначае прыняцце захадаў з мэтай забеспячэння жыццядольнасці нематэрыяльнай культурнай спадчыны ўключна з яе ідэнтыфікацыяй, дакументаваннем, даследаваннем, захаваннем, абаронай, папулярызацыяй, павышэннем яе ролі, яе перадачу, галоўным чынам, з дапамогай фармальнай і нефармальнай адукацыі, а таксама адраджэнне розных аспектаў такой спадчыны.

4. «Дзяржавы-удзельніцы» азначаюць дзяржавы, якія звязаны дадзенай Канвенцыяй і ў дачыненні да якіх Канвенцыя ўвайшла ў сілу.

5. Дадзеная Канвенцыя прымяняецца mutatis mutandis да тэрыторый, названых у артыкуле 33, якія становяцца яе ўдзельнікамі на ўмовах, вызначаных гэтым артыкулам. У гэтых адносінах выраз «дзяржавы-удзельніцы» адносіцца таксама да гэтых тэрыторый.

*Артыкул 3. Сувязь з іншымі міжнародна-прававымі актамі.*

☐ Нішто ў дадзенай Канвенцыі не можа быць вытлумачана як:

а) тое, што змяняе статус або змяншае ўзровень аховы каштоўнасцяў, якія прызнаныя як сусветная спадчына ў рамках Канвенцыі аб ахове культурнай і прыроднай спадчыны 1972 г. і з якімі непасрэдна звязаны той ці іншы элемент нематэрыяльнай культурнай спадчыны, або

б) тое, што закранае правы і абавязацельствы дзяржаў-удзельніц, якія вынікаюць з усіх міжнародна-прававых актаў і датычаць правоў на інтэлектуальную ўласнасць або выкарыстанне біялагічных і экалагічных рэсурсаў, удзельніцамі якіх яны з'яўляюцца.

## II. Органы канвенцыі

*Артыкул 4. Генеральная асамблея дзяржаў-удзельніц.*

1. Дадзеным засноўваецца Генеральная асамблея дзяржаў-удзельніц, названая ніжэй «Генеральная асамблея». Генеральная асамблея з'яўляецца паўнаўладным органам дадзенай Канвенцыі.

2. Генеральная асамблея збіраецца на чарговыя сесіі адзін раз на два гады. Яна можа збірацца на пазачарговыя сесіі, калі прымае такое рашэнне, або па просьбе Міжурадавага камітэта па ахове нематэрыяльнай культурнай спадчыны, або па просьбе не менш за адну трэць дзяржаў-удзельніц.

3. Генеральная асамблея прымае свае Правілы працэдуры.

*Артыкул 5. Міжурадавы камітэт па ахове нематэрыяльнай культурнай спадчыны.*

1. Дадзеным пры ЮНЕСКО засноўваецца Міжурадавы камітэт па ахове нематэрыяльнай культурнай спадчыны, названы ніжэй «Камітэт». Камітэт складаецца з прадстаўнікоў 18 дзяржаў-удзельніц, выбраных дзяржавамі-удзельніцамі, якія сабраліся на Генеральную асамблею, пасля ўступлення дадзенай Канвенцыі ў сілу ў адпаведнасці з артыкулам 34.

2. Колькасць дзяржаў – сябраў гэтага Камітэта будзе павялічана да 24, калі колькасць дзяржаў-удзельніц Канвенцыі дасягне 50.

*Артыкул 6. Выбары і тэрмін паўнамоцтваў дзяржаў – членаў Камітэта.*

1. Выбары дзяржаў – сяброў Камітэта ажыццяўляюцца ў адпаведнасці з прынцыпамі справядлівага геаграфічнага размеркавання і справядлівай ратацыі.

2. Дзяржавы – сябры Камітэта выбіраюцца на тэрмін у чатыры гады дзяржавамі-удзельніцамі Канвенцыі, якія сабраліся на Генеральную асамблею.

3. Аднак тэрмін паўнамоцтваў палова дзяржаў – сяброў Камітэта, абранага падчас першых выбараў, складае два гады. Гэтыя дзяржавы вызначаюцца жэрабем падчас першых выбараў.

4. Кожныя два гады Генеральная асамблея напалову абнаўляе склад дзяржаў – сяброў Камітэта.

5. Яна таксама абірае такую колькасць дзяржаў – сяброў Камітэта, якая неабходная для запаўнення вакантных месц.

6. Дзяржава – сябра Камітэта не можа быць абрана на два тэрміны паўнамоцтваў запар.

7. Дзяржавы – сябры Камітэта выбіраюць у якасці сваіх прадстаўнікоў людзей, якія валодаюць кампетэнцыяй у розных галінах нематэрыяльнай культурнай спадчыны.

*Артыкул 7. Функцыі Камітэта.*

☐ Без шкоды для іншых яго абавязкаў, акрэсленых дадзенай Канвенцыяй, функцыі Камітэта заключаюцца ў наступным:

а) садзеянне дасягненню мэт Канвенцыі, заахвочванне і забеспячэнне маніторынгу яе выканання;

б) правядзенне кансультацый адносна перадавой практыкі і падрыхтоўка рэкамендацый аб мерах па ахове нематэрыяльнай культурнай спадчыны;

в) падрыхтоўка і вынясенне на зацвярджэнне Генеральнай асамблеі праекта плана выкарыстання сродкаў фонду ў адпаведнасці з артыкулам 25;

г) пошук шляхоў павелічэння рэсурсаў фонда і прыняцце з гэтай мэтай неабходных мер у адпаведнасці з артыкулам 25;

д) падрыхтоўка і вынясенне на зацвярджэнне Генеральнай асамблеі матэрыялаў аператыўнага кіравання па выкананні Канвенцыі;

е) разгляд у адпаведнасці з артыкулам 29 дакладаў дзяржаў-удзельніц і іх рэзюмаванне для Генеральнай асамблеі;

ж) разгляд заявак, прадстаўленых дзяржавамі-удзельніцамі, і прыняцце рашэнняў у адпаведнасці з распрацаванымі Камітэтам і зацверджанымі Генеральнай асамблеяй аб'ектыўнымі крытэрыямі, датычнымі:

– уключэння ў спісы і адбору прапаноў, названых ў артыкулах 16, 17 і 18;

– аказання міжнароднай дапамогі ў адпаведнасці з артыкулам 22.

*Артыкул 8. Метады працы Камітэта.*

1. Камітэт падпарадкоўваецца Генеральнай асамблеі. Ён прадстаўляе ёй даклады аб усёй сваёй дзейнасці і рашэннях, якія прымае.

2. Камітэт прымае свае Правілы працэдуры большасцю, якая складае дзве трэці яго сяброў.

3. Камітэт можа ствараць часовыя спецыяльныя кансультатыўныя органы, якія ён палічыць неабходнымі для выканання сваіх задач.

4. Камітэт можа запрашаць на свае пасяджэнні ўсякія дзяржаўныя або прыватныя органы, а таксама ўсякія прыватныя асобы, якія валодаюць прызнанай кампетэнцыяй у розных галінах нематэрыяльнай культурнай спадчыны, з мэтай правядзення з імі кансультацый па канкрэтных пытаннях.

*Артыкул 9. Акрэдытацыя кансультатыўных арганізацый.*

1. Камітэт уносіць на разгляд Генеральнай асамблеі прапановы аб акрэ-

**(Працяг на стар. 4)**





**(Працяг. Пачатак на стар. 3)**

дытацыі неўрадавых арганізацый, якія валодаюць прызнанай кампетэнцыяй у розных галінах нематэрыяльнай культурнай спадчыны. У адносінах да Камітэта гэтыя арганізацыі выконваюць кансультацыйныя функцыі.

2. Камітэт выносіць на разгляд Генеральнай асамблеі прапановы аб крытэрыях і ўмовах пазначанай акрэдытацыі.

*Артыкул 10. Сакратарыят.*

1. Сакратарыят ЮНЕСКО аказвае дапамогу Камітэту.

2. Сакратарыят падрыхтоўвае дакументацыю для Генеральнай асамблеі і Камітэта, а таксама праекты парадку дня іх пасяджэнняў і забяспечвае выкананне іх рашэнняў.

## III. Ахова нематэрыяльнай культурнай спадчыны на нацыянальным узроўні

*Артыкул 11. Роля дзяржаў-удзельніц.*

☐ Кожная дзяржава-удзельніца павінна:

а) прымаць неабходныя захады для забеспячэння аховы нематэрыяльнай культурнай спадчыны, наяўнай на яе тэрыторыі;

б) у межах мер па ахове, пазначаных у пункце 3 артыкула 2, ідэнтыфікоўваць і вызначаць розныя элементы нематэрыяльнай культурнай спадчыны, наяўнай на яе тэрыторыі, пры ўдзеле супольнасцяў, груп і адпаведных неўрадавых арганізацый.

*Артыкул 12. Пералікі.*

1. Для забеспячэння ідэнтыфікацыі з мэтай аховы кожная дзяржава-удзельніца з улікам рэальнай сітуацыі складае адзін або некалькі спісаў нематэрыяльнай культурнай спадчыны, наяўнай на яе тэрыторыі. Такія спісы належыць рэгулярна абнаўляць.

2. Падчас прадстаўлення на перыядычнай аснове свайго даклада Камітэту, згодна з артыкулам 29, кожная дзяржава-удзельніца паведамляе неабходную інфармацыю па гэтых спісах.



*Артыкул 13. Іншыя меры па ахове.*

Для забеспячэння аховы, развіцця і павышэння ролі нематэрыяльнай культурнай спадчыны, наяўнай на яе тэрыторыі, кожная дзяржава-удзельніца прыкладвае намаганні з мэтай:

а) прыняцця агульнай палітыкі, накіраванай на павышэнне ролі нематэрыяльнай культурнай спадчыны ў грамадстве і ўключэнне аховы гэтай спадчыны ў праграмы планавання;

б) вызначэння або стварэння аднаго ці некалькіх кампетэнтных органаў па ахове нематэрыяльнай культурнай спадчыны, наяўнай на яе тэрыторыі;

в) садзеяння навуковым, тэхнічным і мастацтвазнаўчым даследаванням, а таксама распрацоўцы навукова-даследчых метадалогій з мэтай эфектыўнай аховы нематэрыяльнай культурнай спадчыны;

г) прыняцця адпаведных юрыдычных, тэхнічных, адміністрацыйных і фінансавых мер, накіраваных на:

– садзеянне стварэнню ці ўмацаванню ўстаноў па падрыхтоўцы кадраў у галіне кіравання нематэрыяльнай культурнай спадчынай, а таксама перадачы гэтай спадчыны праз формы і прасторы, прадвызначаныя для іх прадстаўлення;

– забеспячэнне доступу да нематэрыяльнай культурнай спадчыны пры захаванні прынятай практыкі, якая вызначае парадак доступу да тых ці іншых аспектаў такой спадчыны;

– стварэнне ўстаноў, якія займаюцца дакументацыяй па нематэрыяльнай культурнай спадчыне, і аблягчэнне доступу да іх.

*Артыкул 14. Адукацыя, павышэнне дасведчанасці грамадскасці і ўмацаванне патэнцыялу.*

☐ Кожная дзяржава-удзельніца, выкарыстоўваючы ўсе наяўныя ў яе распараджэнні сродкі, прыкладвае намаганні, накіраваныя на:

а) забеспячэнне прызнання, павагі і павышэння ролі нематэрыяльнай культурнай спадчыны ў грамадстве, у прыватнасці, праз:

б) праграмы ў галіне адукацыі, павышэнне дасведчанасці і інфармавання грамадскасці, у прыватнасці, моладзі;

в) канкрэтныя праграмы ў галіне адукацыі і падрыхтоўкі кадраў, адрасаваных адпаведным супольнасцям і групам;

г) мерапрыемствы па ўмацаванні патэнцыялу ў галіне аховы нематэрыяльнай культурнай спадчыны, звязаных, у прыватнасці, з пытаннямі кіравання і навуковых даследаванняў;

д) нефармальныя спосабы перадачы ведаў;

е) інфармаванне грамадскасці аб небяспеках, якія пагражаюць такой спадчыне, а таксама аб мерапрыемствах, якія ажыццяўляюцца дзеля выканання дадзенай Канвенцыі;

ж) садзеянне адукацыі па пытаннях аховы прыродных прастораў і памятных мясцін, існаванне якіх неабходнае для выражэння нематэрыяльнай культурнай спадчыны.

*Артыкул 15. Удзел супольнасцяў, груп і асобных людзей.*

У рамках сваёй дзейнасці па ахове нематэрыяльнай культурнай спадчыны кожная дзяржава-удзельніца імкнецца забяспечыць па магчымасці самы шырокі ўдзел супольнасцяў, груп, асобных людзей, якія займаюцца стварэннем, захаваннем і перадачай такой спадчыны, а таксама актыўна прыцягваць іх да кіравання такой спадчынай.

## IV. Ахова нематэрыяльнай культурнай спадчыны на міжнародным узроўні

*Артыкул 16. Рэпрэзентатыўны спіс нематэрыяльнай культурнай спадчыны чалавецтва.*

1. Для забеспячэння большай нагляднасці нематэрыяльнай культурнай спадчыны, садзеяння паглыбленню ўсведамлення яе значэння і заахвочвання дыялогу на аснове павагі да культурнай разнастайнасці Камітэт, па прапанове адпаведных дзяржаў-удзельніц, складае, абнаўляе і публікуе Рэпрэзентатыўны спіс нематэрыяльнай культурнай спадчыны чалавецтва.

2. Камітэт распрацоўвае і прадстаўляе на зацвярджэнне Генеральнай асамблеі крытэрыі складання, абнаўлення і публікацыі пазначанага Рэпрэзентатыўнага спіса.

*Артыкул 17. Спіс нематэрыяльнай культурнай спадчыны, якая патрабуе тэрміновай аховы.*

1. З мэтай прыняцця адпаведных мер аховы Камітэт складае, абнаўляе і публікуе Спіс нематэрыяльнай культурнай спадчыны, якая патрабуе тэрміновай аховы, і ўключае такую спадчыну ў гэты Спіс па просьбе адпаведнай дзяржавы-удзельніцы.

2. Камітэт распрацоўвае і прадстаўляе на зацвярджэнне Генеральнай асамблеі крытэрыі складання, абнаўлення і публікацыі пазначанага Спіса.

3. У выпадках тэрміновасці, аб'ектыўныя крытэрыі якіх зацвярджаюцца Генеральнай асамблеяй на аснове прапановы Камітэта, ён можа ў кансультацыі з зацікаўленай дзяржавай-удзельніцай уключыць элемент адпаведнай спадчыны ў Спіс, згаданы ў пункце 1.

*Артыкул 18. Праграмы, праекты і мерапрыемствы па ахове нематэрыяльнай культурнай спадчыны.*

1. На аснове прапаноў дзяржаў-удзельніц і ў адпаведнасці з распрацаванымі Камітэтам крытэрыямі, зацверджанымі Генеральнай асамблеяй, Камітэт праводзіць перыядычны адбор і садзейнічае ажыццяўленню нацыянальных, субрэгіянальных праграм, праектаў і мерапрыемстваў па ахове спадчыны, якія, на яго думку, найлепшым чынам адлюстроўваюць прынцыпы і мэты дадзенай Канвенцыі, з улікам асаблівых патрэб краін на стадыі развіцця.

2. З гэтай мэтай ён атрымлівае, разглядае і зацвярджае заяўкі на аказанне міжнароднай дапамогі, сфармуляваныя дзяржавамі-удзельніцамі для падрыхтоўкі такіх прапаноў.

3. Камітэт суправаджае ажыццяўленне пазначаных праграм, праектаў і мерапрыемстваў распаўсюджваннем перадавой практыкі ў формах, якія будуць ім вызначаны.

## V. Міжнароднае супрацоўніцтва і дапамога

*Артыкул 19. Супрацоўніцтва.*

1. Для мэт дадзенай Канвенцыі міжнароднае супрацоўніцтва ўключае, у прыватнасці, абмен інфармацыяй і вопытам, сумесныя ініцыятывы, а таксама стварэнне механізма аказання дапамогі дзяржавам-удзельніцам у іх намаганнях, накіраваных на ахову нематэрыяльнай культурнай спадчыны.

2. Без шкоды для палажэнняў іх нацыянальнага заканадаўства і нормаў звычаёвага права і практыкі дзяржавы-удзельніцы прызнаюць, што ахова нематэрыяльнай культурнай спадчыны мае агульнае значэнне для чалавецтва, і з гэтай мэтай абавязуюцца супрацоўнічаць на двухбаковым, субрэгіянальным, рэгіянальным і міжнародным узроўнях.

*Артыкул 20. Мэты міжнароднай дапамогі.*

☐ Міжнародная дапамога можа быць аказана з наступнымі мэтамі:

а) аховы спадчыны, уключанай у Спіс нематэрыяльнай культурнай спадчыны, якая патрабуе тэрміновай аховы;

б) падрыхтоўкі пералікаў у сэнсе артыкулаў 11 і 12;

в) падтрымкі праграм, праектаў і мерапрыемстваў, якія ажыццяўляюцца на нацыянальным, субрэгіянальным і рэгіягальным узроўнях і накіраваны на ахову нематэрыяльнай культурнай спадчыны;

г) усякай іншай мэты, якую Камітэт можа палічыць неабходнай.

*Артыкул 21. Формы міжнароднай дапамогі.*

☐ Дапамога, якая аказваецца Камітэтам дзяржаве-удзельніцы, рэгламентуецца аператыўным кіраўніцтвам, згаданым у артыкуле 7, а таксама пагадненнем, прадугледжаным у артыкуле 24, і можа прымаць наступныя формы:

а) даследаванні, якія датычаць розных аспектаў аховы;

б) аказанне паслуг экспертаў і носьбітаў нематэрыяльнай культурнай спадчыны;

в) падрыхтоўка ўсякага неабходнага персаналу;

г) распрацоўка нарматыўных і іншых мер;

д) стварэнне і забеспячэнне функцыянавання інфраструктур;

е) выдзяленне абсталявання і ноу-хау;

ж) іншыя формы фінансавай і тэхнічнай дапамогі, уключна, у пэўных выпадках з выдзяленнем пазык пад нізкія працэнты і ахвяраванняў.

*Артыкул 22. Умовы аказання міжнароднай дапамогі.*

1. Камітэт вызначае працэдуру разгляду заявак на міжнародную дапамогу і удакладняе такія аспекты пазначаных заявак, як прадугледжаныя захады, неабходныя дзеянні і ацэнка звязаных з імі выдаткаў.

2. У тэрміновых выпадках заяўка на атрыманне дапамогі разглядаецца Камітэтам на прыярытэтнай аснове.

З мэтай прыняцця рашэння Камітэт праводзіць такія даследаванні і кансультацыі, якія ён лічыць неабходнымі.

*Артыкул 23. Заяўкі на міжнародную дапамогу.*

1. Кожная дзяржава-удзельніца можа падаць Камітэту заяўку на міжнародную дапамогу па ахове нематэрыяльнай культурнай спадчыны, наяўнай на яе тэрыторыі.

2. Такая заяўка можа быць таксама пададзена дзвюма ці больш дзяржавамі-удзельніцамі.

3. У заяўку ўключаецца інфармацыя, прадугледжаная ў пункце 1 артыкула 22, і неабходная дакументацыя.

*Артыкул 24. Роля дзяржаў-удзельніц, якія з'яўляюцца бенефіцыярамі.*

1. У адпаведнасці з палажэннямі дадзенай Канвенцыі міжнародная дапамога рэгулюецца пагадненнем паміж дзяржавай-удзельніцай, якая з'яўляецца бенефіцыярам, і Камітэтам.

2. У якасці агульнага правіла дзяржава-удзельніца, якая з'яўляецца бенефіцыярам, у залежнасці ад наяўных у яе распараджэнні сродкаў удзельнічае ў пакрыцці выдаткаў, звязаных з мерамі аховы, на якія выдзяляецца міжнародная дапамога.

3. Дзяржава-удзельніца, якая з'яўляецца бенефіцыярам, падае Камітэту даклад аб выкарыстанні дапамогі, якая выдзяляецца з мэтай аховы нематэрыяльнай культурнай спадчыны.

## VI. Фонд нематэрыяльнай культурнай спадчыны

*Артыкул 25. Характар і рэсурсы фонду.*

1. Дадзеным засноўваецца «фонд нематэрыяльнай культурнай спадчыны», названы ніжэй «фонд».

2. Гэты фонд у адпаведнасці з Палажэннем аб фінансах ЮНЕСКО з'яўляецца мэтавым фондам.

3. Сродкі фонду складаюцца з:

а) узносаў дзяржаў-удзельніц;

б) сродкаў, асігнаваных з гэтай мэтай Генеральнай канферэнцыяй ЮНЕСКО;

в) узносаў, ахвяраванняў або завяшчанай маёмасці, якія могуць быць выдзеленыя:

– іншымі дзяржавамі;

– арганізацыямі і праграмамі сістэмы Арганізацыі Аб'яднаных Нацый, у прыватнасці, Праграмай развіцця Арганізацыі Аб'яднаных Нацый і іншымі міжнароднымі арганізацыямі;

– дзяржаўнымі ці прыватнымі органамі, або прыватнымі асобамі;

– усякіх працэнтных налічэнняў на сродкі гэтага фонду;

– сумы збораў і паступленняў ад мерапрыемстваў, арганізаваных на карысць фонду;

– усякіх іншых сродкаў, прадугледжаных Палажэннем аб фондзе, распрацаваным Камітэтам.

1. Камітэт прымае рашэнні аб выкарыстанні сродкаў на аснове кіруючых указанняў Генеральнай асамблеі.

2. Камітэт можа прымаць узносы і дапамогу ў іншых формах, прызначаных для агульных і канкрэтных мэт, звязаных з пэўнымі праектамі, пры ўмове, што такія праекты ўхвалены Камітэтам.

3. Унясенне ўзносаў у фонд не можа суправаджацца ніякімі палітычнымі, эканамічнымі ці іншымі ўмовамі, не сумяшчальнымі з мэтамі дадзенай Канвенцыі.

*Артыкул 26. Узносы дзяржаў-удзельніц у фонд.*

1. Без шкоды для ўсякага добраахвотнага ўзносу дзяржавы-удзельніцы дадзенай Канвенцыі абавязуюцца ўносіць у Фонд не радзей як раз на два гады ўзносы, сума якіх, вылічаная па адзінай працэнтнай стаўцы, якая прымяняецца для ўсіх дзяржаў, вызначаецца Генеральнай асамблеяй. Рашэнне Генеральнай асамблеі па гэтым пытанні прымаецца большасцю дзяржаў-удзельніц, якія прысутнічаюць і ўдзельнічаюць у галасаванні і якія не зрабілі заявы, прадугледжанай у пункце 2 дадзенага артыкула. Ні ў якім выпадку пазначаны ўзнос дзяржавы-удзельніцы не перавышае 1 % яе ўзносу ў звычайны бюджэт ЮНЕСКО.

2. Аднак кожная дзяржава, згаданая ў артыкулах 32 ці 33 дадзенай Канвенцыі, можа ў момант перадачы на захаванне сваёй ратыфікацыйнай граматы ці дакумента аб прыняцці, зацвярджэнні або далучэнні зрабіць заяву, што яна не будзе звязаная палажэннямі пункта 1 дадзенага артыкула.

3. Дзяржава-удзельніца дадзенай Канвенцыі, якая зрабіла заяву, прадугледжаную ў пункце 2 дадзенага артыкула, прыкладвае намаганні да таго, каб адклікаць сваю заяву, паведаміўшы пра гэта Генеральнаму дырэктару ЮНЕСКО. Аднак адкліканне заявы ўваходзіць у сілу ў адносінах да ўзносу, на-





лежнага ад гэтай дзяржавы, толькі з даты адкрыцця наступнай сесіі Генеральнай асамблеі.

4. Каб камітэт мог эфектыўна планаваць сваю дзейнасць, узносы дзяржаў-удзельніц дадзенай Канвенцыі, якія зрабілі заявы прадугледжаныя ў пункце 2 дадзенага артыкула, павінны ўносіцца на рэгулярнай аснове, па меншай меры раз на два гады, і павінны па магчымасці набліжацца да сумы ўзносаў, якія яны павінны былі б уносіць у тым выпадку, калі б яны былі звязаны палажэннямі пункта 1 дадзенага артыкула.

5. Усякая дзяржава-удзельніца дадзенай Канвенцыі, якая мае запазычанасць па сваіх абавязковых ці добраахвотных узносах за бягучы год і каляндарны год, які непасрэдна папярэднічае яму, не можа быць абрана членам Камітэта; гэта палажэнне не прымяняецца ў дачыненні да выбараў. Паўнамоцтвы такой дзяржавы, якая ўжо з'яўляецца членам Камітэта, заканчваецца ў момант усякіх выбараў, прадугледжаных у артыкуле 6 дадзенай Канвенцыі.

*Артыкул 27. Дадатковыя дабраахвотныя ўзносы ў фонд.*

Дзяржавы-удзельніцы, якія жадаюць унесці добраахвотныя ўзносы, якія з'яўляюцца дадатковымі ў дачыненні да прадугледжаных у артыкуле 26, інфармуюць аб гэтым Камітэт як найхутчэй з тым, каб ён мог адпаведным чынам планаваць сваю дзейнасць.

*Артыкул 28. Міжнародныя кампаніі па зборы сродкаў.*

Дзяржавы-удзельніцы па меры магчымасці падтрымліваюць міжнародныя кампаніі па зборы сродкаў для фонду, якія арганізуюцца пад эгідай ЮНЕСКО.

## VII. Даклады

*Артыкул 29. Даклады дзяржаў-удзельніц.*

Дзяржавы-удзельніцы падаюць Камітэту ў форме і з перыядычнасцю, якія вызначаюцца Камітэтам, даклады аб заканадаўчых і рэгламентуючых палажэннях ці іншых загадах, прынятых імі з мэтай выканання дадзенай Канвенцыі.

*Артыкул 30. Даклады Камітэта.*

1. Камітэт падае на кожную сесію Генеральнай асамблеі даклад, які рыхтуецца на аснове яго дзейнасці і дакладаў дзяржаў-удзельніц, паказаных у артыкуле 29.

2. Гэты даклад даводзіцца да ведама Генеральнай канферэнцыі ЮНЕСКО.

## VIII. Пераходныя палажэнні

Артыкул 31. Сувязь з абвяшчэннем шэдэўраў вуснай і нематэрыяльнай спадчыны чалавецтва.

1. Камітэт уключае ў Рэпрэзентатыўны спіс нематэрыяльнай культурнай спадчыны чалавецтва шэдэўры вуснай і нематэрыяльнай спадчыны чалавецтва, абвешчаныя да ўваходжання ў сілу дадзенай Канвенцыі.

2. Уключэнне пазначаных шэдэўраў у Рэпрэзентатыўны спіс нематэрыяльнай культурнай спадчыны чалавецтва аніякім чынам не прадвызначае крытэрыі, якія вызначаюцца ў адпаведнасці з пунктам 2 артыкула 16 у адносінах да наступных уключэнняў.

3. Пасля ўваходжання дадзенай Канвенцыі ў сілу не будуць адбывацца ніякія далейшыя абвяшчэнні.

## IX. Заключныя палажэнні

*Артыкул 32. Ратыфікацыя, прыняцце і зацвярджэнне.*

1. Дадзеная Канвенцыя падлягае ратыфікацыі, прыняццю або зацвярджэнню дзяржавамі-сябрамі ЮНЕСКО ў парадку, прадугледжаным іх адпаведнымі канстытуцыйнымі працэдурамі.

2. Ратыфікацыйныя граматы, дакументы аб прыняцці ці зацвярджэнні здаюцца на захаванне Генеральнаму дырэктару ЮНЕСКО.

*Артыкул 33. Далучэнне.*

1. Дадзеная Канвенцыя адкрытая для далучэння ўсіх дзяржаў, якія не з'яўляюцца сябрамі ЮНЕСКО, якім Генеральная канферэнцыя Арганізацыі прапануе далучыцца да гэтай Канвенцыі.

2. Дадзеная Канвенцыя адкрытая таксама для далучэння тэрыторый, якія маюць поўнае ўнутранае самакіраванне, якія прызнаюцца Арганізацыяй Аб'яднаных Нацый, але не дасягнулі поўнай незалежнасці ў адпаведнасці з рэзалюцыяй 1514 (xv) Генеральнай Асамблеі Арганізацыі Аб'яднаных Нацый і якія валодаюць кампетэнцыяй у пытаннях, якія рэгулююцца дадзенай Канвенцыяй, у тым ліку кампетэнцыяй па заключэнні дагавораў, якія датычаць такіх пытанняў.

3. Дакумент аб далучэнні здаецца на захоўванне Генеральнаму Дырэктару ЮНЕСКО.

*Артыкул 34. Уваходжанне ў сілу.*

Дадзеная Канвенцыя ўваходзіць у сілу праз тры месяцы з дня здачы на захоўванне ратыфікацыйнай граматы ці дакумента аб прыняцці, зацвярджэнні або далучэнні, але толькі ў дачыненні да тых дзяржаў, якія здалі на захаванне свае ратыфікацыйныя граматы ці дакументы аб прыняцці, зацвярджэнні або далучэнні ў пазначаны дзень ці раней. У дачыненні да ўсякай іншай дзяржавы-удзельніцы Канвенцыя ўваходзіць у сілу праз тры месяцы з дня здачы на захоўванне яе ратыфікацыйнай граматы ці дакумента аб прыняцці, зацвярджэнні або далучэнні.

*Артыкул 35. Федэратыўныя або неунітарныя канстытуцыйныя сістэмы.*

Наступныя палажэнні прымяняюцца да дзяржаў-удзельніц, якія маюць федэратыўную ці неунітарную будову:

☐ у тым, што датычыць палажэнняў дадзенай Канвенцыі, прымя-

**(Заканчэнне на стар. 6)**




Генеральная канферэнцыя, прымаючы на сябе абавязак поўнасцю забяспечваць выкананне правоў чалавека і фундаментальных свабод, абвешчаных у Сусветнай дэкларацыі правоў чалавека і ў іншых прызнаных ва ўсім свеце заканадаўчых актах, такіх, як дзве міжнародныя Канвенцыі ад 1966 г. адпаведна па грамадзянскіх і палітычных правах і па эканамічных, сацыяльных і культурных правах:

– нагадваючы, што прэамбула Канстытуцыі ЮНЕСКО сцвярджае, «што шырокае распаўсюджванне адукацыі людзей у духу справядлівасці, свабоды і міру неабходна дзеля сцвярджэння чалавечай годнасці і з'яўляецца святым абавязкам, які ўсе нацыі (дзяржавы) павінны выконваць у духу ўзаемнай падтрымкі і ўзаемакарысці»;

– абапіраючыся на артыкул 1 Канстытуцыі, які вызначае адным з абавязкаў ЮНЕСКО спрыяць «такім міжнародным пагадненням, якія б забяспечвалі свабоднае распаўсюджванне ідэй у форме слова і вобраза»;

– нагадваючы пра палажэнні ў справе культурнай разнастайнасці і рэалізацыі культурных правоў у міжнародных заканадаўчых актах, прынятых ЮНЕСКО (1);

– пацвярджаючы, што культуру трэба разглядаць як комплекс адметных духоўных, матэрыяльных, інтэлектуальных і эмацыянальных праяў грамадства або сацыяльнай групы, а гэта ўключае ў сябе, акрамя мастацтва і літаратуры (3), таксама стылі жыцця, спосабы суіснавання, сістэмы каштоўнасцяў, традыцый і вераванняў (2);

– зазначаючы, што культура знаходзіцца ў цэнтры сучасных спрэчак пра тоеснасць, сацыяльнае адзінства і развіццё эканомікі, заснаванай на ведах;

– сцвярджаючы, што павага да разнастайнасці культур, талерантнасць, дыялог ва ўмовах узаемадаверу і ўзаемаразумення з'яўляюцца лепшымі гарантыямі міру паміж народамі і бяспекі;

– імкнучыся да ўзмацнення салідарнасці на аснове прызнання культурнай разнастайнасці, усведамлення еднасці ўсяго чалавецтва і развіцця міжкультурнага абмену;

– усведамляючы, што працэс глабалізацыі, якому спрыяе развіццё новых інфармацыйных і камунікацыйных тэхналогій, хоць і з'яўляецца ў пэўнай ступені адыходам ад культурнай разнастайнасці, аднак стварае ўмовы для абнаўлення дыялогу паміж культурамі і цывілізацыямі;

– усведамляючы, што ЮНЕСКО даверана асаблівая місія ў рамках сістэмы ААН: забяспечваць захаванне разнастайнасці культур і спрыяць ёй,

**абвяшчае наступныя прынцыпы і прымае дадзеную Дэкларацыю:**

### ТОЕСНАСЦЬ, РАЗНАСТАЙНАСЦЬ І ПЛЮРАЛІЗМ

***Артыкул 1. Культурная разнастайнасць: агульначалавечая спадчына.***

Культура ўвасабляецца ў розных формах у часе і прасторы. Гэтая разнастайнасць увасоблена ва унікальнасці і вялікай колькасці тоесных груп і грамадстваў, з якіх складаецца чалавецтва. Як крыніца абмену, абнаўлення і творчасці гэтак жа неабходная для чалавецтва, як біялагічная разнастайнасць для прыроды. У гэтым сэнсе яна з'яўляецца агульнай спадчынай чалавецтва і павінна прызнавацца і сцвярджацца на карысць цяперашняга і будучых пакаленняў.

***Артыкул 2. Ад культурнай разнастайнасці да культурнага плюралізму.***

Ва ўмовах усё большага адрознення грамадстваў неабходна забяспечыць гарманічнае ўзаемадзеянне паміж народамі і групамі, якія маюць розныя і дынамічныя культурныя тоеснасці, а таксама спрыяць іх жаданню жыць разам. Палітыка ўключэння ў гэты працэс і ўдзел у ім усіх грамадзян з'яўляюцца гарантыяй сацыяльнай еднасці, жыццяздольнасці грамадзянскай супольнасці і міру. Вызначаны такім чынам культурны плюралізм увасабляецца ў рэальнай палітыцы культурнай разнастайнасці. Неад'емны ад дэмакратычнага ладу культурны плюралізм спрыяе культурнаму абмену і росквіту творчых магчымасцяў, на якіх грунтуецца жыццё грамадства.

***Артыкул 3. Культурная разнастайнасць як чыннік развіцця.***

Культурная разнастайнасць пашырае магчымасць выбару для кожнага чалавека; яна з'яўляецца адным з чыннікаў развіцця, пад чым трэба разумець не толькі эканамічны рост, але і дасягненне задавальняючага інтэлектуальнага, эмацыянальнага, маральнага і духоўнага існавання.

### КУЛЬТУРНАЯ РАЗНАСТАЙНАСЦЬ І ПРАВЫ ЧАЛАВЕКА

***Артыкул 4. Правы чалавека як гарантыя культурнай разнастайнасці.***

Абарона культурнай разнастайнасці – гэта этычны імператыў, неад'емны ад павагі да чалавечай годнасці. Пад гэтым трэба разумець захаванне правоў чалавека і фундаментальных свабод, у прыватнасці правоў асоб, якія належаць да меншасцяў і да карэнных народаў. Ніхто не можа заклікаць да культурнай разнастайнасці, каб парушыць правы чалавека, гарантаваныя міжнародным правам, або абмежаваць іх дзеянне.

***Артыкул 5. Культурныя правы як спрыяльнае асяроддзе для культурнай разнастайнасці.***

Культурныя правы з'яўляюцца неад'емнай часткай правоў чалавека, універсальных, непадзельных і ўзаемазалежных. Дзеля росквіту творчай разнастайнасці неабходна поўнае выкананне культурных правоў, як гэта вызначана ў артыкуле 27 Сусветнай дэкларацыі правоў чалавека і ў артыкулах 13 і 15 Міжнароднага пагаднення па эканамічных, сацыяльных і культурных правах. У адпаведнасці з імі ўсе людзі павінны мець магчымасць самавыражэння, творчасці і распаўсюджвання сваіх твораў на мове, абранай імі, і асабліва на іх роднай мове; усе людзі павінны мець доступ да якаснай адукацыі і падрыхтоўкі ва ўмовах, якімі поўнасцю забяспечваецца павага да іх культурнай тоеснасці; усе людзі павінны мець магчымасць удзельнічаць у культурным жыцці паводле свайго выбару і займацца самастойнай культурнай дзейнасцю пры ўмовах захавання правоў чалавека і фундаментальных свабодаў.

***Артыкул 6. Культурная разнастайнасць для ўсіх.***

Забяспечваючы свабодную плынь ідэй у форме слова і вобраза, неабходна рупіцца аб тым, каб усе культуры мелі магчымасць самавыражэння і маглі паведаміць аб сабе. Свабода слова, плюралізм сродкаў масавай інфармацыі, шматмоўе, роўны доступ да мастацкіх, навуковых і тэхналагічных ведаў, уключна з дыгітальнай (лічбавай) формай, а таксама магчымасць доступу да ўсіх культур, да сродкаў выражэння і распаўсюджвання інфармацыі з'яўляюцца гарантыямі культурнай разнастайнасці.

### КУЛЬТУРНАЯ РАЗНАСТАЙНАСЦЬ І ТВОРЧАСЦЬ

***Артыкул 7. Культурная спадчына як крыніца творчасці.***

Творчасць жывіцца каранямі культурнай традыцыі, але расцвітае ў кантакце з іншымі культурамі. З гэтай прычыны трэба захоўваць спадчыну ва ўсіх яе формах, павялічваць і перадаваць будучым пакаленням як суму чалавечага досведу і памкненняў, а таксама трэба спрыяць творчасці ва ўсёй яе разнастайнасці і натхняць на шчыры дыялог паміж культурамі.

***Артыкул 8. Аб'екты культуры і паслугі ў сферы культуры: унікальныя аб'екты.***

Ва ўмовах цяперашніх эканамічных і тэхналагічных перамен, адкрыцця шырокіх перспектыў для творчасці і інавацый неабходна звяртаць асаблівую ўвагу на разнастайнасць у сферы прапаноў прадуктаў творчай працы, на адпаведнае прызнанне правоў аўтараў і выканаўцаў і на унікальнасць аб'ектаў культуры і паслуг у сферы культуры, якія, будучы вектарамі тоеснасці, каштоўнасці і значэння, не могуць разглядацца як звычайныя паслугі або прадукты спажывання.

***Артыкул 9. Культурная палітыка як каталізатар творчасці.***

Забяспечваючы свабодны абмен ідэямі і творамі, культурная палітыка павінна ствараць умовы, якія б спрыялі ўзнікненню і распаўсюджванню разнастайных аб'ектаў культуры і паслуг у сферы культуры праз шэраг відаў культурнай дзейнасці, мэтай якіх з'яўляецца самасцвярджэнне на мясцовым і глабальным узроўнях. Гэта адносіцца да кожнай дзяржавы. У адпаведнасці з яе міжнароднымі абавязкамі яна павінна вызначыць сваю культурную палітыку і рэалізоўваць

*(Заканчэнне на стар. 6)*





*(Заканчэнне. Пачатак на стар. 3–5)*

ненне якіх падлягае юрысдыкцыі федэральнай або цэнтральнай улады, абавязацельствы федэральнага або цэнтральнага ўрада будуць такімі ж, што і абавязацельствы дзяржаў-удзельніц, якія не з'яўляюцца федэральнымі дзяржавамі;

□ у тым, што датычыць палажэнняў дадзенай Канвенцыі, прымяненне якіх падлягае юрысдыкцыі асобных штатаў, абласцей, правінцый ці кантонаў у складзе федэрацыі, якія у адпаведнасці з існуючай у іх канстытуцыянальнай сістэмай не абавязаныя прымаць заканадаўчыя загады, федэральны ўрад даводзіць пазначаныя палажэнні да ведама кампетэнтных улад штатаў, абласцей, правінцый ці кантонаў з рэкамендацыяй аб іх прыняцці.

*Артыкул 36. Дэнансацыя.*

1. Кожная дзяржава-удзельніца можа дэнансаваць дадзеную Канвенцыю.

2. Дэнансацыя ратыфікуецца пісьмовым актам, які здаецца на захоўванне Генеральнаму дырэктару ЮНЕСКО.

3. Дэнансацыя ўваходзіць у сілу праз дванаццаць месяцаў пасля даты атрымання акта аб дэнансацыі. Яна ніякім чынам не змяняе фінансавых абавязацельстваў, узятых на сябе дзяржавай-удзельніцай, якая ажыццяўляе дэнансацыю, да даты ўваходжання ў сілу выхаду з Канвенцыі.

*Артыкул 37. Функцыі дэпазітарыя.*

Генеральны дырэктар ЮНЕСКО, выступаючы ў якасці дэпазітарыя дадзенай Канвенцыі, інфармуе дзяржавы-сябры Арганізацыі, дзяржавы, якія не з'яўляюцца сябрамі, пазначаныя ў артыкуле 33, а таксама Арганізацыю Аб'яднаных Нацый аб здачы на захоўванне ўсіх ратыфікацыйных грамат, дакументаў аб прыняцці, зацвярджэнні ці далучэнні, згаданых у дэнансацыі, пазначаных у артыкуле 36.

*Артыкул 38. Папраўкі.*

1. Дзяржава-удзельніца можа шляхам пісьмовага паведамлення, накіраванага Генеральнаму дырэктару ЮНЕСКО, прапанаваць папраўкі да дадзенай Канвенцыі. Генеральны дырэктар рассылае такое паведамленне ўсім дзяржавам-удзельніцам. Калі на працягу шасці месяцаў з даты рассылкі пазначанага паведамлення не менш за палову дзяржаў-удзельніц дадуць станоўчыя адказы на гэту прапанову, Генеральны дырэктар прадстаўляе яе наступнай сесіі Генеральнай асамблеі для разгляду і магчымага прыняцця.

2. Папраўкі прымаюцца большасцю ў дзве трэці дзяржаў-удзельніц, якія прысутнічаюць і ўдзельнічаюць у галасаванні.

3. Папраўкі да дадзенай Канвенцыі пасля іх прыняцця падлягаюць ратыфікацыі, прыняццю, зацвярджэнню або далучэнню дзяржавамі-удзельніцамі.

4. Папраўкі ўваходзяць у сілу, але толькі ў адносінах да дзяржаў, якія ратыфікавалі, прынялі, зацвердзілі гэтыя папраўкі да дадзенай Канвенцыі або далучыліся да іх, праз тры месяцы з дня здачы на захоўванне дакументаў, пазначаных у пункце 3 дадзенага артыкула, дзвюма трэцямі дзяржаў-удзельніц. У далейшым для кожнай дзяржавы-удзельніцы, якая ратыфікуе, прымае, зацвярджае папраўку або далучаецца да папраўкі, дадзеная папраўка ўваходзіць у сілу праз тры месяцы з дня здачы на захоўванне дзяржавай-удзельніцай яе дакумента аб ратыфікацыі, прыняцці, зацвярджэнні або далучэнні.



5. Працэдура, акрэсленая ў пунктах 3 і 4, не прымяняецца ў адносіх да папravак да артыкула 5, які датычыць колькасці дзяржаў-сяброў Камітэта. Такія папраўкі ўваходзяць у сілу на момант іх прыняцця.

6. Дзяржава, якая становіцца ўдзельніцай дадзенай Канвенцыі пасля ўваходжання ў сілу папravак у адпаведнасці з пунктам 4 дадзенага артыкула, калі толькі яна не заяўляе аб іншым намеры, лічыцца:

а) удзельніцай дадзенай Канвенцыі з прынятымі да яе папраўкамі;

б) удзельніцай дадзенай Канвенцыі без прынятых да яе папravак у адносінах усякай дзяржавы-удзельніцы, не звязанай гэтымі папраўкамі.

*Артыкул 39. Аўтэнтычнасць тэкстаў.*

Дадзеная Канвенцыя складзена на англійскай, арабскай, іспанскай, кітайскай, рускай і французскай мовах, прычым усе шэсць тэкстаў з'яўляюцца ў роўнай ступені аўтэнтычнымі.

*Артыкул 40. Рэгістрацыя.*

У адпаведнасці з артыкулам 102 Статута Арганізацыі Аб'яднаных Нацый дадзеная Канвенцыя рэгіструецца ў Сакратарыяце Арганізацыі Аб'яднаных Нацый па просьбе Генеральнага дырэктара ЮНЕСКО.

*(Заканчэнне. Пачатак на стар. 5)*

яе сродкамі, якія лічыць адпаведнымі, аказваючы падтрымку развіццю культурнай дзейнасці ці выкарыстоўваючы адпаведнае рэгуляванне.

## КУЛЬТУРНАЯ РАЗНАСТАЙНАСЦЬ І МІЖНАРОДНАЯ САЛІДАРНАСЦЬ

***Артыкул 10. Пашырэнне магчымасцяў творчай дзейнасці і распаўсюджвання яе па ўсім свеце.***

Ва ўмовах цяперашняга дысбалансу на глабальным узроўні ў абмене культурнымі аб'ектамі і паслугамі ў сферы культуры трэба ўзмацніць міжнароднае супрацоўніцтва і салідарнасць з мэтай садзеяння ўсім краінам, якія знаходзяцца на стадыі развіцця і на пераходным этапе, у заснаванні шэрагу відаў культурнай дзейнасці, якія былі б жыццяздольнымі і канкурэнтназдольнымі на нацыянальным (дзяржаўным) і міжнародным узроўнях.

***Артыкул 11. Пабудова партнёрскіх адносін паміж дзяржаўным сектарам, прыватным сектарам і грамадзянскай супольнасцю.***

Захаванне і падтрымка культурнай разнастайнасці, якая з'яўляецца крыніцай бесперапыннага развіцця чалавецтва, не можа быць гарантавана толькі сіламі рынку. З гэтага пункту гледжання трэба падкрэсліць прыярытэтнасць (6) дзяржаўнай палітыкі ў супрацоўніцтве з прыватным сектарам і грамадзянскай супольнасцю.

***Артыкул 12. Роля ЮНЕСКО.***

ЮНЕСКО ў адпаведнасці са сваімі мандатамі і функцыямі павінна:

1. Спрыяць увасабленню прынцыпаў, выкладзеных у гэтай Дэкларацыі, у стратэгічных планах развіцця розных міжурадавых арганізацый.

2. Служыць асновай для спасылкі і глебай, на якіх дзяржавы, міжнародныя ўрадавыя і няўрадавыя арганізацыі, грамадзянская супольнасць і прыватны сектар маглі б аб'ядноўвацца пры распрацоўцы канцэпцый, мэт і палітыкі на карысць культурнай разнастайнасці.

3. Прыкладаць намаганні па ўсталяванні стандартаў, папулярызацыі і стварэнні магчымасцяў у сферах, вызначаных гэтай Дэкларацыяй, і ў рамках сваёй кампетэнцыі.

4. Спрыяць выкананню Плана дзеянняў, галоўныя напрамкі якога прыкладзены да гэтай Дэкларацыі.

## ГАЛОЎНЫЯ НАПРАМКІ ПЛАНА ДЗЕЯННЯЎ ПА ВЫКАНАННІ СУСВЕТНАЙ ДЭКЛАРАЦЫІ ЮНЕСКО ПА КУЛЬТУРНАЙ РАЗНАСТАЙНАСЦІ

Дзяржавы – сябры ЮНЕСКО абавязуюцца зрабіць адпаведныя крокі па шырокім распаўсюджванні «Сусветнай Дэкларацыі ЮНЕСКО па культурнай разнастайнасці», у прыватнасці, для дасягнення наступных мэт:

1. Паглыбляць міжнародны дыялог па пытаннях, якія тычацца культурнай разнастайнасці, у прыватнасці, яе сувязяў з развіццём і яе ўплыву на фарміраванне палітыкі як на нацыянальным (дзяржаўным), так і на міжнародным узроўнях; у прыватнасці, актывізаваць дзейнасць па аналізе мэтазгоднасці прыняцця міжнароднага прававога акта па культурнай разнастайнасці.

2. Спрыяць вызначэнню прынцыпаў стандартаў і практычных дзеянняў як на нацыянальным (дзяржаўным), так і на міжнародным узроўнях, а таксама форм папулярызацыі і мадэляў супрацоўніцтва, якія былі б найбольш эфектыўнымі ў справе захавання культурнай разнастайнасці і садзеяння ёй.

3. Спрыяць абмену ведамі і больш дасканалымі формамі дзеянняў у сферы культурнага плюралізму з мэтай аблягчэння ўключэння і ўдзелу у гэтым працэсе асоб і груп рознага культурнага паходжання ў грамадствах, якія складаюцца з розных культурных элементаў.

4. Пашыраць разуменне і тлумачыць сэнс культурных правоў як інтэгральнай часткі правоў чалавека.

5. Захоўваць моўную спадчыну чалавецтва і падтрымліваць існаванне моў, творчасці на іх і распаўсюджванне як мага большай колькасці моў.

6. Стымуляваць развіццё моўнай разнастайнасці – пры павазе да роднай мовы – на ўсіх узроўнях адукацыі, наколькі гэта магчыма, і спрыяць вывучэнню шэрагу моў з маладога ўзросту.

7. Спрыяць праз адукацыю станоўчай ацэнцы культурнай разнастайнасці і з гэтай мэтай удасканальваць як вучэбныя праграмы, так і падрыхтоўку выкладчыкаў.

8. Па магчымасці укараняць традыцыйныя метады педагогікі ў адукацыйны працэс з мэтай захавання і больш поўнага выкарыстання адпаведных культурнай традыцыі метадаў перадачы ведаў.

9. Спрыяць «дыгітальнай (у рамках лічбавых тэхналогій) пісьменнасці» і ўдасканальванню новых інфармацыйных і камунікацыйных тэхналогій, якія павінны разглядацца як адукацыйная дысцыпліна і як педагагічны сродак дзеля павышэння эфектыўнасці працэсу навучання.

10. Спрыяць моўнай разнастайнасці ў кібернетычнай прасторы і ўсеагульнаму доступу праз сусветную сетку да ўсёй інфармацыі ў грамадскай сферы.

11. Пераадольваць розніцу ў развіцці дыгітальных (лічбавых) тэхналогій у цесным супрацоўніцтве з адпаведнымі сістэмнымі арганізацыямі ААН, спрыяючы доступу краін, якія знаходзяцца на стадыі развіцця, да новых тэхналогій, дапамагаючы ім у засваенні інфармацыйных тэхналогій і спрыяючы распаўсюджванню дыгітальнымі сродкамі рэгіянальных прадуктаў культурнага працэсу і доступу гэтых краін да адукацыйных, культурных і навуковых дыгітальных рэсурсаў, даступных ва ўсім свеце.

12. Спрыяць вытворчасці, захаванню і распаўсюджванню інфармацыі рознага зместу ў сродках масавай інфармацыі і сусветнай інфармацыйнай сетцы і з гэтай мэтай спрыяць павышэнню ролі радыё і тэлебачання ў развіцці аўдыёвізуальнай прадукцыі высокай якасці, у прыватнасці, спрыяць усталяванню сумесных механізмаў, каб аблегчыць распаўсюджванне такой прадукцыі.

13. Распрацоўваць палітыку і стратэгію захавання і ўзбагачэння культурнай і прыроднай спадчыны, а перш за ўсё вуснай і нематэрыяльнай, а таксама змагацца супраць незаконнага гандлю аб'ектамі культуры і паслугамі ў сферы культуры.

14. Шанаваць і абараняць традыцыйныя веды, асабліва карэнных народаў; прызнаваць уклад традыцыйных ведаў, асабліва ў справу абароны навакольнага асяроддзя і выкарыстання прыродных рэсурсаў, і спрыяць гарманізацыі сучаснай навукі і рэгіянальных ведаў.

15. Спрыяць магчымасці свабоднага перамяшчэння творцаў, мастакоў, даследчыкаў, навукоўцаў і інтэлектуалаў і развіццю міжнародных праграм даследавання і партнёрства, у той жа час захоўваць творчыя магчымасці і спрыяць ім у краінах, якія знаходзяцца на стадыі развіцця і на пераходным этапе.

16. Забяспечыць абарону аўтарскіх і сумежных з імі правоў у інтарэсах развіцця сучаснай творчасці і справядлівай аплаты творчай працы, у той жа час падтрымліваць правы грамадства на доступ да культуры ў адпаведнасці з артыкулам 27 Сусветнай дэкларацыі правоў чалавека.

17. Садзейнічаць узнікненню і актывізацыі дзейнасці ў сферы культуры ў краінах, якія знаходзяцца на стадыі развіцця і на пераходным этапе, і з гэтай мэтай супрацоўнічаць дзеля развіцця неабходных інфраструктур і ведаў, спрыяць узнікненню мясцовых рынкаў і доступу аб'ектаў культуры гэтых краін да сусветнага рынку і міжнароднай сеткі распаўсюджвання.

18. Развіваць культурную палітыку, уключаючы захады па аператыўнай падтрымцы і стварэнні неабходнай нарматыўна-прававой базы, якая была б накіравана на ажыццяўленне прынцыпаў гэтай Дэкларацыі ў адпаведнасці з міжнароднымі абавязкамі кожнай дзяржавы.

19. Прыцягнуць грамадзянскую супольнасць да справы вызначэння грамадскай палітыкі, накіраванай на захаванне культурнай разнастайнасці і садзеянне ёй.

20. Прызнаваць і падтрымліваць уклад, які можа зрабіць прыватны сектар у справу садзеяння культурнай разнастайнасці, і спрыяць з гэтай мэтай скліканню форумаў дзеля правядзення дыялогу паміж дзяржаўным і прыватным сектарамі.

Дзяржавы-сябры рэкамендуюць Генеральнаму дырэктару ўлічваць змест гэтага Плана дзеянняў пры рэалізацыі праграм ЮНЕСКО і паведаміць пра яго інстытутам ААН, а таксама іншым міжурадавым і няўрадавым арганізацыям, каб паспрыяць аб'яднанню намаганняў на карысць культурнай разнастайнасці.

1. Сярод іх, у прыватнасці: Фларэнційскае пагадненне 1950 г. і яго Найробскі пратакол 1976 г.; Міжнародная канвенцыя па аўтарскіх правах 1952 г.; Дэкларацыя прынцыпаў міжнароднага культурнага супрацоўніцтва 1966 г.; Канвенцыя аб захадах па забароне і прадухіленні незаконнага імпарту, экспарту і перадачы аўтарскіх правоў (1970); Канвенцыя па абароне сусветнай і прыроднай спадчыны 1972 г.; Дэкларацыя ЮНЕСКО па расах і расавых забабонах 1978 г.; Рэкамендацыя адносна Статуса творцы 1980 г. і Рэкамендацыя абароны традыцыйнай і народнай культуры 1989 г.

2. Гэтая дэфініцыя стаіць у адным шэрагу з высновамі Сусветнай канферэнцыі па культурнай палітыцы (MONDIACULT, Мехіка, 1982), Сусветнай Камісіі па культуры і развіцці (Наша творчая разнастайнасць, 1995) і Міжурадавай канферэнцыі па культурнай палітыцы дзеля развіцця (Стакгольм, 1998).





*Кароткі слоўнік*
## краязнаўча-прававой тэрміналогіі
*беларускай старажытнасці*



**(Пачатак у № 3 за 2005 г.)**

**МЕТРЫКА ВКЛ**, Літоўская метрыка (польск. архіў) – прынятая назва архіва канцыляры ВКЛ XIV–XVII стст. Каштоўны збор дакументаў па гісторыі Літвы, Беларусі, Украіны і рускіх зямель, што ўваходзілі ў склад ВКЛ.

Дакументы за XV і большую частку XVI стст. на беларускай мове, пазнейшыя, пасля забароны афіцыйнага і дзяржаўнага ўжытку (1696) беларускай мовы сеймам Рэчы Паспалітай, на польскай, часткова на лацінскай мовах. За XV–XVI стст. дакументы зберагліся ў копіях, за XVII–XVIII стст. у арыгінале. Метрычныя кнігі (каля 600) – дакументы вялікага князя, паноў-рады, сейма, замежных дзяржаў, дзяржаўных устаноў і асоб. Падзяляюцца на пасольскія, данін, судовых спраў, запісаў, публічных спраў, арэндаў. Найважнейшыя з метрыкі – акты пра сацыяльна-эканамічнае развіццё Літвы і Беларусі XV–XVIII стст. (прывілеі земскія, паветовыя, гарадам, асобным кагортам насельнікаў, справаздачы мясцовых установаў, аб правах феадалаў на валоданне зямлёй, на будаўніцтва гарадоў і мястэчак, адкрыццё торгаў, кірмашоў, корчмаў, пра збор пошлін, статуты валасцям пра павіннасці, дараванні пасад, зямель, судовыя прысуды і інш.). У кнігах публічных спраў знаходзяцца княжацкія і каралеўскія наказы, статуты, сеймавыя пастановы. У пасольскіх – матэрыялы знешняй палітыкі ВКЛ (лісты да замежных дзяржаў і ад іх, дагаворы, прамовы паслоў, інструкцыі ім і інш.). Захоўваліся ў Троках, Вільні, Варшаве, цяпер – у Цэнтральным дзяржаўным архіве старажытных актаў у Маскве. Нямала дакументаў метрыкі надрукавана ў Актах Літоўска-Рускай дзяржавы, Актах Заходняй Расіі, Актах Паўднёвай і Заходняй Расіі і інш. выданнях. Яны былі спрыяльнай крыніцай для навуковых прац па гісторыі ВКЛ М. Любаўскага, М. Доўнар-Запольскага, В. Ластоўскага, У. Ігнатоўскага, У. Пічэты, М. Ермаловіча і інш.

**МЕЧНІК** – службовец у ВКЛ, які падаваў вялікаму князю меч, – знак вярхоўнай улады. Паходзіў з радных паноў і браў удзел у пасяджэнні рады.

**МІЛЯ** (англ. тысяча двайных рымскіх крокаў) – адзінка вымярэння адлегласці. У розных краінах была рознай. У ВКЛ раўнялася 7,798 км.

**МІТРАПАЛІТ** (грэч. вышэйшы духоўны тытул у праваслаўных епіскапаў, кіраўнік мітраполіі (царкоўнай адміністрацыйнай акругі). У ВКЛ з 1458 г. справамі праваслаўнай царквы кіраваў мітрапаліт кіеўскі, якога прызначаў канстанцінопальскі патрыярхат і фармальна падпарадкоўваўся яму. Мітраполія мела ў сваім складзе Навагрудскую, Полацка-Віцебскую, Тураўа-Пінскую, Смаленскую і інш. епархіі. Афіцыйна мітрапаліт меў рэзідэнцыю ў Кіеве, але падоўгу знаходзіўся і ў Навагрудку, Вільні, Смаленску і інш. месцах. Спачатку ён быў у ліку вышэйшых саноўнікаў ВКЛ. Асобныя мітрапаліты імкнуліся трапіць у склад паноў-рады, дзе былі каталіцкія біскупы. Але гэтыя спробы не мелі поспеху. Пастанова Гродзенскага сейма 1522 г. забараняла вярхам праваслаўнай царквы займаць адказныя дзяржаўныя пасады. Пасля Брэсцкай уніі 1596 г. уплыў мітрапаліта на грамадска-палітычнае жыццё ВКЛ быў значна абмежаваны.

# Афіцыйнае двухмоўе на Беларусі:
## рэальнасць ці дысбаланс?

*(Працяг. Пачатак у № 8)*

Пра ўсё гэта мною вялася даволі падрабязная гаворка з чытачом у артыкулах «Беларуская мова: трывога і надзея» («Маладосць». 1988, № 4), «Двуязычие: проблемы и перспективы» («Советская Белоруссия», 25 мая 1988 г.), «Взвешенность вместо эмоций» (там жа, 15 лютага 1989 г.), «Обсуждению подлежит...» (там жа, 19 верасня 1989 г.). Каб як-небудзь выратаваць краіну ад зусім рэальнага канфлікту на моўнай глебе, ЦК КПСС вымушаны *быў на вераснёўскім* (1989) пленуме вуснамі свайго лідэра Міхаіла Гарбачова такімі заспакойлівымі словамі стрымаць іх справядлівыя абурэнні: «Перш за ўсё мы выходзім з таго, што карэннае насельніцтва ўсіх рэспублік, безумоўна, мае поўнае права зацвердзіць сваю мову ў якасці дзяржаўнай (заўважце: пра такі статус для рускай мовы ў рэспубліках ні слова! – **Л.Л.**), інакш кажучы, стварыць прававыя ўмовы для яе захавання і развіцця. Гэта не толькі юрыдычнае пытанне. Гэта пытанне палітычнае, паколькі размова ідзе аб самаадчуванні нашых народаў, іх зразумелым імкненні захаваць сваю нацыянальную незалежнасць». Ах, як усяго гэтага не ставала ў бальшавіцкай нацыянальнай палітыцы на працягу ўсяго папярэдняга перыяду!

Павярнуцца тварам да карэнных нацыянальных інтарэсаў абавязвалі партыйна-дзяржаўны апарат, афіцыйныя ідэолагі і такія словы М. Гарбачова: «Пазбаўце чалавека магчымасцяў гаварыць і пісаць на роднай мове, ведаць гістарычны шлях, эпас свайго народа, і ён, якіх бы поспехаў не дасягнуў у матэрыяльных адносінах, уժо бязродны, а значыць, і бездухоўны». Так і хочацца сказаць, што выснова зроблена з няўдалага, стратнага вопыту беларусаў. Праўдзівасць яе цалкам пацвярджаецца і іх сённяшнім становішчам, якое далёка не адпавядае нацыянальнаму жыццю любой еўрапейскай краіны.

У характэрных для канца 80-х гадоў XX стагоддзя варунках улады Беларусі ўжо ніяк не маглі далей адсоўваць час надання мове свайго карэннага насельніцтва статусу адзінай дзяржаўнай. Гэтае пытанне знайшло сваё юрыдычнае рашэнне ў прынятым 26 студзеня 1990 года законе «Аб мовах у Беларускай ССР». Згодна з ім, у БССР магла выкарыстоўвацца ў грамадскім жыцці і руская мова. А што датычыцца мовы «узаемаадносін рэспубліканскіх і мясцовых дзяржаўных, партыйных органаў, прадпрыемстваў, устаноў і грамадскіх арганізацый з саюзнымі органамі», тут у адпаведнасці з 9 артыкулам закона павінна была ўжывацца толькі руская мова. Прыярытэт надаваўся ёй і пры абслугоўванні дачыненняў «з органамі, прадпрыемствамі, установамі і арганізацыямі іншых саюзных рэспублік».

У той час мала хто думаў, што можа распасціся СССР, таму для сувязі паміж яго суб'ектамі і сапраўды найбольш прыдатнай з'яўлялася руская мова, якую ведалі ва ўсіх саюзных і аўтаномных рэспубліках. Але з адыходам СССР у Лету такую функцыю магла б выконваць ужо і беларуская мова. Да прыкладу, Балгарыя, Польшча, Румынія і іншыя краіны не заўсёды выкарыстоўваюць якую-небудзь чужую мову для сваіх міжнародных зносін. У такіх выпадках афіцыйнае двухмоўе на Беларусі натуральна зрабіла б яшчэ большы крок у бок мовы яе дзяржаўнага народа, чым забяспечваліся б вельмі спрыяльныя ўмовы для яго прыстойнага самабытнага этнакультурнага жыцця. Нарэшце і яму б пашчасціла вызваліцца ад так моцна абрыдлых формаў культурнамоўнай асіміляцыі.

Такі прагрэсіўны ход нацыянальна-культурнага жыцця беларусаў не задавальняў тых, хто дзесяцігоддзямі займаўся іх русіфікацыяй. На вялікую бяду, сярод такіх асімілятараў сустракалася нямала і саміх беларусаў, прычым і ў верхніх эшалонах улады. У іх галовах вельмі хутка выспела думка аб правядзенні рэферэндуму з мэтай юрыдычнага ўраўнавання рускай мовы з беларускай. Рэферэндум адбыўся ў маі 1995 года. Руская мова такі статус атрымала, толькі вось бяда, ніхто не паклапаціўся, каб роўнасць паміж ёй і беларускай мовай усталёўвалася і на практыцы, дзе і падчас рэферэндуму, як і ў папярэдні перыяд, панавала руская мова. Пяці гадоў пасля прыняцця закона «Аб мовах у Беларускай ССР» не хапіла, каб прыкметна пацясніць яе ў афіцыйным жыцці беларускай мовай. Вельмі мала было ў апошняй сапраўдных прыхільнікаў у асяроддзі чыноўніцкага апарату. А менавіта ён, а не лінгвісты, вырашаў і вырашае лёс беларускай мовы.

Майскі рэферэндум 1995 года, спыніўшы заканамернае паступовае пашырэнне маштабаў ужывання беларускай мовы ў грамадскім жыцці, дазволіў апаратчыкам вельмі хутка нарошчваць у ім патэнцыял рускай мовы. Пра афіцыйнае двухмоўе ніхто з іх нават і не думаў. Датычыла гэта і самых высокіх органаў улады і кіравання, г. зн. тых структур, якія абяцалі народу ўсталяваць у краіне на аснове вынікаў рэферэндуму поўную не толькі юрыдычную, але і фактычную роўнасць беларускай і рускай моваў.

Не ў прыклад усім астатнім былым саюзным рэспублікам Беларусь у моўным плане не толькі вярнулася да самых неспрыяльных савецкіх часоў, але нават працягвала ўпарта пагаршаць становішча роднага слова сваёй тытульнай нацыі. Прычым гэты архішкодны для яе працэс пачынаў свой ход з высокіх паверхаў дзяржаўнай улады, а затым імкліва апусціўся ўніз аж да самых мясцовых саветаў. Гэты негатыўны вопыт дзяржаўных структур тут жа пераймаў кіраўнічы апарат адміністрацыйна-гаспадарчых органаў. У такой сітуацыі не маглі не турыць беларускую мову з усіх тыпаў навучальных устаноў органы народнай адукацыі. Сёння ў іх мова беларусаў горш сябе пачувае, чым за савецкім часам. Дакаціліся ўжо да таго, што кіраўнікі гэтага міністэрства, а таксама міністэрстваў культуры і інфармацыі нават падчас падрыхтоўкі сваіх выступленняў і правядзення 4 верасня ў Камянцы Дня беларускага пісьменства больш карысталіся рускім, чым родным для нашай краіны словам. Ёсць усе падставы сцвярджаць, што беларуская мова, калі не закончыла, дык заканчвае выкананне сваіх цалкам законных, зафіксаваных канстытуцыяй функцый па абслугоўванні грамадскага жыцця. Надышоў час спраўляць па ёй хаўтуры.

Сказанае вышэй ніяк не дае пагадзіцца са словамі старшыні Пастаяннай камісіі Савета Рэспублікі Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь па міжнародных справах і нацыянальнай бяспецы Мікалая Чаргінца: «Наша краіна сёння мае дзве *раўнацэнныя* (падкрэслена мною. – **Л.Л.**) дзяржаўныя мовы: такую неабходнасць прадыктавалі гістарычныя рэаліі. У гэтым праявілася дальнабачная палітыка нашага кіраўніцтва» («ЛіМ», 02.09.2005). О, як нам далёка ўсяго гэтага! Бо нават цьмянага беларускамоўнага агеньчыка не бачым у дзяржаўным сектары жыццядзейнасці людзей. Пра раўнацэннасць, раўнапраўнасць дзяржаўных беларускай і рускай моваў пішуць і гавораць многія палітычныя дзеячы і блізкая ім па духу інтэлігенцыя. І іх лёгка зразумець: не даць людзям усумніцца ў правільнасці моўнай палітыкі Рэспублікі Беларусь. Вось толькі ці магчымы поўны парытэт беларускай і рускай моваў у яе грамадскім жыцці? Думаю, што не.

*Леанід ЛЫЧ,*
*доктар гістарычных навук, прафесар*

*(Працяг будзе)*




**Надаючы беларускім паселішчам назвы, не зусім характэрныя і не адпаведныя традыцыям, з'яўляюцца і бязглуздыя «гібрыды». Гэтую шыльду мы пабачылі падчас святкавання юбілею П. Броўкі на ягонай радзіме...**

***Фота Уладзіміра ПУЧЫНСКАГА***

## Сусветны дзядзінец

**1314.** Ваявода Давыд Гарадзенскі разбіў крыжацкі атрад каля сённяшняга Навагрудка.

**1431.** Бургундскі герцаг прадае за 10 000 франкаў захопленую ў палон у выніку здрады народную гераіню Жанну д'Арк.

**1722.** Пётр І уводзіць падатак на права мець бараду.

**1818.** Парыжанін барон Дрэз дэманструе першае двухколавае вынаходніцтва для язды (правобраз сучаснага веласіпеда). Канструкцыя была драўляная і зрушвалася з месца, калі яздок адштурхоўваўся ад зямлі нагамі.

**1827.** Англійскі фармацэўт Дж. Уокер вынаходзіць запалкі, але не запатэнтуе сваё адкрыццё і не будзе мець ад яго ніякага прыбытку. У родным горадзе ў яго гонар назавуць вуліцу. Вытворчасць запалак пачалася ў 1833 г. Некалькі дзесяцігоддзяў яны былі небяспечныя: бывала, самаўзгараліся. Толькі ў канцы 1850-х іх здолелі «утаймаваць».

**1871.** Берлін аб'яўляецца сталіцай новай дзяржавы – Германскай імперыі.

*Сонечны лес, дзе скачуць зайцы*

**Фота Ўладзіміра ПУЧЫНСКАГА**

***Уладзімір Ермалаеў нарадзіўся на Магілёўшчыне, з маленства паспытаў бязбацькавіцкі горкі хлеб (бацька загінуў на фронце), пасля – Мсціслаўскае педвучылішча, Мінскі педінстытут, выкладчыцкая праца ў розных ВНУ. Кандыдат гістарычных навук, аўтар шматлікіх навуковых прац. Першыя вершы ён змясціў у 17-гадовым узросце, але стала пачаў пісаць пазней і дабіўся ў сваім жанры значнага поспеху.***

***Уладзімір ЕРМАЛАЕЎ***

### Дзедава трывога

*Дзяліўся дзед сваёй*
*трывогай:*
*Маўляў,*
*усюды справы дрэнь.*
*– Як гэта так?*
*Ідзеш дарогай –*
*І не пачуеш*
*«Добры дзень!».*
*На карані зычлівасць*
*сохне*
*Ці немата бярэ людзей?..*
*Свіння свінню сустрэне –*
*рохне,*
*А чалавек маўчком ідзе.*

### «Беларусізацыя» прыстасаванца

*Расце любоў*
*да роднай мовы.*
*І ён ужо прыстасаваўся:*
*Узяў і вывучыў*
*тры словы:*
*Хто «за»,*
*хто «супраць»,*
*хто «ўстрымаўся»?*

***

*Ідэалогію ці веру,*
*Як плюнуць,*
*можна памяняць,*
*Бо трэба ж*
*новую кар'еру*
*Пры ўладзе новай*
*пачынаць.*

***

*Начыталіся газет,*
*Казак пра імперыю.*
*Выйшаў з моды*
*сельсавет –*
*Захацелі мэрыю.*

### Няўдачлівы дзялок

*Марыў пра Канары,*
*А трапіў на нары.*

### Такі час

*Бацька-рысь*
*падлетка-рыся*
*Павучаў:*
*– Жаваць вучыся!*
*Хто каго пераже,*
*Той таго пераўжыве.*



*Шарж Аляксандра*
КАРШАКЕВІЧА

### Каханне выпівакі

*Ён тады шануе Гэльку,*
*Як на стол падасць*
*бутэльку.*
*А калі няма бутэлькі,*
*Начаваць не будзе*
*ў Гэлькі.*




## Малая краязнаўчая энцыклапедыя

*(Пачатак у № 1 за 2003 г.)*

**ВАЙНА МАСКОЎСКАЙ ДЗЯРЖАВЫ з ВКЛ** 1512–1522 гадоў – чацвёртая вайна за ўсходнія землі ВКЛ. У выніку шматлікіх бітваў 1512–1514 гг. ад яго былі забраныя Смаленск, Мсціслаў, Крычаў і інш. гарады. У 1514 г. каля Оршы адбылася бітва, у якой гетман найвышэйшы К. Астрожскі разбіў 80-тысячнае маскоўскае войска. Уся Беларусь была вызвалена. У 1515 г. у чарговы раз былі ажыццёўленыя напады на Полацк, Віцебск і Мсціслаў, былі спаленыя Браслаў і Друя, а ў сваю чаргу войскі ВКЛ учынілі напад на Северскую зямлю і Вялікія Лукі. Летам 1517 г. пасольства Жыгімонта І спрабавала дамовіцца пра спыненне вайны, але беспаспяхова, і ваенныя дзеянні аднавіліся. Летам 1518 г. зноў былі асаджаныя Полацк, Віцебск, Слуцк, Менск, Навагародак. У 1519 г. было спалена шмат беларускіх гарадоў, а люду выведзена ў палон. У 1522-м было падпісана перамір'е на 5 гадоў, Смаленск заставаўся ў Маскоўскай дзяржаве.

**ВАЙНА МАСКОЎСКАЙ ДЗЯРЖАВЫ з ВКЛ** 1534–1537 гадоў – пятая вайна за ўсходнія землі ВКЛ. Выкарыстаўшы складаную ўнутраную сітуацыю ў Маскоўскай дзяржаве (парушыўся яе саюз з крымскімі татарамі), войска ВКЛ у жніўні 1534 г. рушыла на Смаленск, у Северскую зямлю, дзе ў 1535-м заняло некалькі гарадоў. У чэрвені маскоўскае войска напала ў адказ і спаліла нямала беларускіх гарадоў. У 1536 г. ваенныя дзеянні аднавіліся, пад Крычавам войска ВКЛ атрымала перамогу. У лютым 1537 г. было заключана пагадненне: Гомель заставаўся ў ВКЛ, Себеж і Завалочча перадаваліся Маскоўскай дзяржаве, астатнія межы заставаліся нязменныя.

Войны, якія з перапынкамі амаль 45 гадоў вяло ВКЛ, знясілілі яго. У выніку яно мусіла пайсці на больш цесны саюз з Польшчай, заключыць з ёй Люблінскую унію 1569 г. і шмат у чым саступіць.

**ВАЙНА РАСІІ з РЭЧЧУ ПАСПАЛІТАЙ** (Польшча і ВКЛ) 1632–1634 гадоў – вайна за Смаленскія і Северскія землі, што паводле перамір'я 1618 г. заставаліся ў Рэчы Паспалітай. Цар Міхаіл Фёдаравіч і яго бацька патрыярх Філарэт у верасні 1632 г. накіравалі на Смаленск 40-тысячнае войска. Яно асадзіла гэты горад і заняло Асвею, Друю, Полацк і інш. У жніўні 1633 г. да Смаленска падышло 25-тысячнае войска польскага караля і адцясніла ад яго нападнікаў. У лютым 1634 г. было заключана перамір'е, у выніку Рэч Паспалітая вярнула асобныя страчаныя землі, а Расія атрымала г. Сярпейск і інш.

**ВАЙНА РАСІІ з РЭЧЧУ ПАСПАЛІТАЙ** 1654–1667 гадоў – вайна за землі Смаленшчыны, Беларусі, Украіны,



*Ліцвінскія войскі адбіваюць набег*
*(фрагмент гравюры 1597 г.)*

Літвы, Польшчы і за польскі трон. У маі 1654 г. больш як 80-тысячная армія Аляксея Міхайлавіча і 20-тысячнае войска запарожскіх казакаў рушылі да ўсходніх і паўднёва-усходніх межаў ВКЛ. Яго войска, дзе было каля 20 тысяч, не магло аказаць сур'ёзнага супраціўлення. Да кастрычніка было занята звыш 30 беларускіх гарадоў. Зімой-вясной 1654–1655 гг. войска ВКЛ перайшло ў контрнаступленне, вярнула частку страчаных зямель, але летам 1655-га зноў мусіла пад націскам адступаць, неакупаваныя часткі зямель былі толькі астраўкамі. Паход рускіх войск на Варшаву запыніла ўварванне Швецыі ў Жамойць. Восенню ваенныя дзеянні на Беларусі спыніліся. Прашведска настроены гетман вялікі Я. Радзівіл, які ўзначальваў войска ВКЛ, вёў перамовы са Швецыяй для скасавання уніі з Польшчай і заключэння саюза з ёю. 20 кастрычніка такая унія была падпісана. У 1656 г. было заключана пагадненне паміж Польшчай і Расіяй, паводле якога вайна запынялася на 2 гады. У канцы 1658-га яна аднавілася. Цяпер не на карысць царскіх войск, ад якіх адышлі ўкраінскія казакі. У 1667 г. было падпісана новае перамір'е тэрмінам на 13 гадоў. Вынікі вайны для ВКЛ былі трагічныя – насельнікаў скарацілася больш чым у 2 разы (з 2,9 да 1,4 мільёна чалавек).

Газета зарэгістравана ў Міністэрстве інфармацыі Рэспублікі Беларусь. Рэгістрацыйнае пасведчанне № 2019 ад 19. 03. 2003 г.
Заснавальнікі: грамадскае аб'яднанне «Беларускі фонд культуры», вытворчае прыватнае унітарнае прадпрыемства «Светач», Гілеп Уладзімір Аляксандравіч.

Краязнаўчая газета
Індэкс індывідуальнай падпіскі – 63320
ведамасная – 633202

Галоўны рэдактар – Уладзімір ГІЛЕП
Нам. галоўнага рэдактара Генрых ДАЛІДОВІЧ.
Адказны сакратар Уладзімір Пучынскі.
Рэдкалегія: Анатоль Бутэвіч, Андрэй Вірчак, Анатоль Грыцкевіч, Алесь Карлюкевіч, Лідзія Кулажанка, Адам Мальдзіс, Вячаслаў Рагойша, Віталь Скалабан, Віктар Хурсік.

Наш адрас:
220029, г. Мінск, вул. Камунальная набярэжная, 6.
Тэл. 283 28 26.
E-mail: kraga@tut.by



Падпісана да друку: 02.03.2006.
Газета надрукавана ў друкарні УП «Светач»: 220030, г. Мінск, вул. Першамайская, 7. (Ліцэнзія ЛП № 02330/0056609 ад 27.02. 2004 г.)
Заказ 393.
Тыраж 1560.